ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World

Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178

Jamaica, New York 11432

U.S.A.

№ 361 Год выд. XXXVIII | Жнівень 1989

## ЧАРНОБЫЛЬ: ДАЛЕЙШЫЯ ВЫСЯЛЕНЬНІ

На сэсіі Вярхоўнага Савету БССР 28 ліпеня сёлета намесьнік Старшыні Савету Міністраў (прэм'ера) БССР У. Еўтух прадставіў нарэшце — тры гады па аварыі — даўгатэрміновую праграму (на 1990-1995 гг.) ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Запланаваныя дадатковыя высяленьні жыхароў з заражаных радыяцыяй мясцовасьцяў.

«Усяго ў адпаведнасьці з канцэпцыяй бясьпечнага пражываньня, — сказаў Еўтух, — намечана адсяліць 11.601 жыхара з 87 населеных пунктаў, зь якіх у Гомельскай 5.817 чалавек з 38 населеных пунктаў, Магілеўскай — 5.466 чалавек з 47 населеных пунктаў і ў Брэсцкай — 318 чалавек з 2 населеных пунктаў.

«Акрамя таго, будзе дадаткова вывучана пытаньне адсяленьня 104,5 тыс. жыхароў з 423 населеных пунктаў».

Дакладчык сказаў, што адсяляць людзей урад ня можа бязь іхнае на гэта згоды, бо «любое насільле ў гэтай справе можа разглядацца як парушэньне правоў чалавека».

Вялікая частка даўгога дакладу Еўтуха — гэта нараканьні на нястачы тавараў і спэцыялістаў у забруджаных радыяцыяй раёнах, недабраякасныя работы, чыноўніцкую маруднасьць у выконваньні пастановаў, абыякавасьць з боку бюракратычнага апарату. Вось тыповы пасаж з дакладу:

«У многіх школах (Гомельшчыны й Магілеўшчыны) ня створаныя элемэнтарныя ўмовы для захоўваньня прадуктаў, якія хутка псуюцца, пярвічнай апрацоўкі сыравіны і прыгатаваньня страў. Адсутнічае магчымасьць карыстаньня праточнай халоднай і гарачай вадой, няма каналізацыі. Бедны і аднастайны асартымэнт страў. Патрэбнасьць школьных сталовых Магілеўскай вобласьці ў сьвежай агароднiне ў 1-м квартале бягучага году задаволеная на 65 працэнтаў, садавіне — на 88 працэнтаў. За гэты пэрыяд у сталовыя школаў паступіла сокаў з мякацьцю, неабходных для вываду з арганізму радыенуклідаў, толькі ў колькасьці 13 працэнтаў да патрэбнасьці».

Паважную шкоду здароўю людзей заражаных раёнаў спрычыніла засакрэчанасьць, якою Масква ахутала чарнобыльскую катастрофу. «Сур'ёзна ўскладніла нашу работу, — прызнаўся цяпер Еўтух, — позьняе рассакрэчаньне многіх даных, зьвязных з вынікамі аварыі, нягледзячы на неаднаразовыя звароты рэспублікі па данаму пытаньню з настойлівай просьбай у саюзныя органы. І хоць сёньня гэтыя пытаньні ў асноўным ужо зьнятыя, але фактар часу пакінуў нямала выдаткаў».Еўтух прызнаўся, што калі ў красавіку 1986 году здарылася чарнобыльская аварыя, «то мы тады нават не мелі сапраўднага дазімэтра для вызначэньня малых дозаў радыяцыі, зь якімі прыйшлося мець справу пасьля аварыі».

Няма гэтых дазімэтраў і цяпер. На тэй-жа сэсіі дэпутат У. Ганчарык у судакладзе сказаў: «Да гэтага часу ня вырашанае пытаньне забесьпячэньня насельніцтва індывідуальнымі дазімэтрамі». Гэткіх прыладаў у Савецкім Саюзе для Беларусі проста няма.

Вось чаму Еўтух сказаў, што «заслугоўвае ўсякага адабрэньня» «зварот да суайчыньнікаў ва ўсіх краінах сьвету дапамагчы ў задавальненьні патрэбаў рэспублікі ў некаторых дэфіцытных радыяцыйных вымяральных прыборах і мэдыцынскім дыягнастычным абсталяваньні».

Дэпутат Ганчарык запрапанаваў «стварыць у рэспубліцы грамадзкі Фонд Чарнобыля», на які маглі-б пералічацца сродкі ад розных асобаў і арганізацыяў, у тым ліку й замежных.

Урад БССР распрацаваў даўгатэрміновую праграму ліквідацыі вынікаў Чарнобыля, на рэалізацыю якой спатрэбіцца «звыш 10 міліярдаў рублёў». Праграма гэтая мусіць яшчэ быць разгледжаная саюзнымі міністэрствамі й ведамствамі, «якія павінны будуць выдзеліць патрэбныя фінансавыя і матар'яльныя рэсурсы». (Паводля «Зьвязды», 29.VII.89)

## ЧАРНОБЫЛЬ І НАЦЫЯНАЛІЗМ

Брытанская газэта «Дэйлі Тэлеграф» (1.VIII) у аглядзе нацыянальных рухаў у крамлёўскай «непаслухмянай імпэрыі» піша: «Беларускі нацыяналізм рэзка вырас апошнім годам, калі выявілася праўда пра Чарнобыль».

Лёнданская газэта «Таймс» (10.VII) у пераліку падзеяў у СССР, пад заг. «Нарастаньне хвалі нацыяналізму й палітычнага хваляваньня», падала пра ўстаноўны зьезд Беларускага Народнага Фронту ў Вільні з зазначэньнем, што ў склад 55-асабовай рады БНФ увайшлі два народныя дэпутаты.

## «ХОПІЦЬ ПРАСІЦЬ, НАСТАЎ ЧАС ПАТРАБАВАЦЬ»

На сэсіі ВС БССР, што адбылася ў канцы ліпеня сёлета, народны дэпутат А. Сьцепаненка, гаворачы пра «мізэрную аснашчанасьць мэдыцынскімі прыборамі» заражаных (радыяцыяй) раёнаў, сказаў:

«На вялікі сорам, наш народ аказаўся прасіцелем у чыноўнікаў цэнтральных ведамстваў. Але хіба мы просім для сябе лепшага жыцьця за кошт іншых? Такога ніколі ня было і ня будзе. Наш дом забрудзілі, а мы ходзім кланяемся і просім, каб нам дапамаглі яго ачысьціць. Хопіць прасіць, настаў час патрабаваць». («Зьвязда», 1.VIII.89)

## НА КАНФЭРЭНЦЫІ С.А.Л.

На канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі, што адбылася ў Брысбане (Аўстралія) 21-25 жнівеня, Беларускі Вызвольны Фронт быў прадстаўлены дэлегацыяй з трох асобаў на чале із сп. Уладзімерам Шнэкам, заступнікам начальніка галоўнага штабу БВФ Д. Касмовіча. Сп. Ул. Шнэк жыве ў Аўстраліі.

# НА 40-Я ЎГОДКІ БАЗА

Сёлета 31-га ліпеня споўнілася сорак гадоў ад дня заснаваньня найбольш масавае беларускае арганізацыі ў Злучаных Штатах — Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы (БАЗА). Арганізацыя была заснаваная ў Нью-Ёрку і зарэгістраваная із статутам, што прадугледжваў стваральне філіялаў па цэлай Амэрыцы. З часам адзьдзелы БАЗА паўсталі паза Нью-Ёркам, у штатах Нью-Джэрзы, Агаё, Канэктыкуце, Мічыгане, Іліной, Каліфорніі.

У першым паведамленьні аб заснаваньні БАЗА, напісаным др. Янкам Станкевічам, гэтак было сказана пра заданьні БАЗА: «памагаць перасяленьню ў Амэрыку беларускіх высяленцаў зь Нямеччыны й Аўстрыі, арганізаваць Беларусаў, рупіцца, каб яны захавалі сваю культурную спадчыну, памагаць беларускім іміграантам у Задзіночаных Гаспадарствах бяз розьніцы веры і палітычных паглядаў ды памагаць па магчымасьці беларускай эміграцыі і вонках Амэрыкі, паддзержываць беларускі народ у яго змаганьні да вызваленьня ды інфармаваць сьвет пра вызвольныя й культурныя імкненьні ягоныя, рэестраваць беларускіх іміграантаў, пашыраць сярод Беларусаў нацыянальную сьведамасьць, ідэі хрысьціянскай маральнасьці, брацтва, дэмакратыі ды прынцыпы рэлігійнай талеранцыі».

БАЗА дапамагала й дапамагае стварэньню іншых беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў. Гэтак, Задзіночаньне брала ўдзел у арганізацыі Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, заснаваньні беларускіх царкоўных прыходаў, Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, жаноцкага згуртаваньня ды іншых.

Ад самага пачатку БАЗА актыўна дапамагае суродзічам у справах іміграцыі ў Амэрыку, у розных адміністрацыйных справах.

БАЗА была першай беларускай арганізацыяй, што дамаглася, каб у Кангрэсе ЗША ўшаноўваўся 25 сакавіка Дзень Беларускае Незалежнасьці, чыталася малітва за Беларусь. Штатныя адзьдзелы й прадстаўніцтвы БАЗА робяць штагоду стараньні, каб губэрнатары штатаў абвяшчалі 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці. Пачалося гэта ў 1955 годзе ды трывае дагэтуль.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне было адным з пачынальнікаў штодвухгадовых сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, было першай беларускай арганізацыяй, што пачала заснoўваць беларускія сыботня-нядзельныя школы.

БАЗА вядзе шырокую прапаганду беларускае культуры сярод амэрыканскага грамадзтва, выдала каля 10 брашураў пра Беларусь у ангельскай мове, арганізавала за мінулыя 40 гадоў сотні розных культурных мерапрыёмстваў: выстаўкі, канцэрты, фэстывалі і г.д.

БАЗА брала актыўны ўдзел у шмат якіх палітычных акцыях, скіраваных на дэмаскаваньне каляніяльнага стану савецкай Беларусі, дамагалася вызваленьня беларускіх вязьняў сумленьня ў Савецкім Саюзе, як прыкладам Міхала Кукабакі.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне супрацоўнічае зь іншымі нацыянальнымі арганізацыямі, інфармуе іх аб палажэньні ў Беларусі.

Адно з найбольш грунтоўных дасягненьняў БАЗА — газэта «Беларус», якая пачала выходзіць у 1950 годзе ды пашыраецца цяпер па цэлым сьвеце, у тым ліку сярод Беларусаў Польскай Народнай Рэспублікі ды Савецкага Саюзу.

Сёньня, калі зьмены рэжымаў у Усходняй Эўропе даюць Беларусам Амэрыкі магчымасьць наладжваць шырэйшыя і свабаднейшыя сувязі з суродзічамі на Бацькаўшчыне, нельга пераболышыць значэньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня для нацыянальнага адраджэньня беларускага народу ды справы гуманітарнае дапамогі суродзічам у Беларусі — прыкладам, пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі.

Галоўная Ўправа БАЗА шчыра вітае ўсе свае адзьдзелы, прадстаўніцтвы й сяброў з 40-мі ўгодкамі арганізацыі ды разам з рэдакцыяй газэты «Беларус» заклікае прыдбоўваць Задзіночаньню новых сяброў, а таксама падтрымваць газэту «Беларус», інфармацыйная роля якой усё больш расьце сярод суродзічаў на Беларускіх Землях і паза імі — у Польшчы й Савецкім Саюзе.

## ЗА ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

Паводля «чытацкага рэфэрэндуму», які правяла газэта «Советская Белоруссия» — анкета была апублікаваная 26 красавіка сёлета, а вынікі дзьвюх тысячаў адказаў пададзеныя 11 жнівеня — 65,8% апытаных выказаліся за дзяржаўнасьць беларускае мовы. Працэнты прыхільнікаў дзяржаўнасьці роднае мовы вышэйшыя сярод моладзі й сярод людзей зь меншай асьветай.

Калі-б падобная анкета была праведзеная сярод чытачоў беларускамоўнае газэты, дык працэнт прыхільнікаў дзяржаўнага статусу беларускае мовы напэўна быў-бы яшчэ вышэйшы.

### *БЛЯКАДА МОЎНАЙ ПРАГРАМЫ*

Часапіс Index On Censorship (№ 5/89) зьмясьціў артыкул Веры Рыч пад заг. «Чые завязаныя языкі?», у якім апісваецца, як была заблякаваная на больш за год часу праграма Камісіі беларускай мовы пры Беларускім Фондзе Культуры. Праграма была гатовая да друку ў красавіку 1988 году.

Тэкст гэтага забароненага дакуманту, напісанага пабеларуску, разам з ангельскім перакладам быў выдадзены асобнай брашурай у Лёндане Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі пад заг. «Нацыянальная мова ў сацыялістычнай дзяржаве. Дакумант аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫІ

**Устаноўнага зьезду Беларускага Народнага Фронту ў Вільні**

**24-25 чэрвеня 1989 году.**

### Зварот да народаў СССР і краін-членаў ААН

Зьезд Беларускага Народнага Фронту зьвяртаецца да народаў СССР і народаў сьвету з просьбай аб дапамозе Беларусі ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Склаўшаяся сытуацыя не дазваляе вырашыць праблемы, што ўзьніклі ў сувязі з чарнобыльскай аварыяй, без дапамогі міжнароднай супольнасьці. Гэтая дапамога можа выражацца ў пастаўках радыямэтрычнага, дыягнастычнага абсталяваньня і ўсялякай іншай дапамогі для ліквідацыі вынікаў доўгага радыяцыйнага ўзьдзеяньня.

Міжнародная салідарнасьць будзе азначаць для беларускага народу шанц на выжываньне.

### Ухвала БНФ «Адраджэньне» пра беларуска-літоўскія дачыненьні

Тысячагодавая традыцыя добрасуседзтва і ўзаемадапамогі паміж Беларусамі і Літоўцамі, даўнейшая і сучасная сумесная барацьба за ідэалы дэмакратыі і сувэрэнітэту — зарука нашай духовай еднасьці. У цяжкі для беларускага народу час літоўскі народ, літоўскі рух за перабудову «Саюдзіс» падаў нам руку братэрскай дапамогі. БНФ «Адраджэньне» шчыра дзякуе «Саюдзісу», сотням Літоўцаў за іх дапамогу. БНФ лічыць, што гэта і ёсьць праявы супраўднага, на казённага, а натхнёнага ідэяй свабоды і дэмакратыі інтэрнацыяналізму. БНФ перакананы, што наш супольны абавязак — захаваць і даць магчымасьць для разьвіцця беларускай нацыянальнай меншасьці на Віленшчыне і літоўскай нацыянальнай меншасьці на Беларусі. Няхай вечна гучыць у нашых сэрцах і душах наш супольны гістарычны лёзунг "За нашу і вашу волю!" Жыве Беларусь! Жыве Літва!

### Ухвала пра міжнацыянальныя адносіны на Беларусі

Беларускі Народны Фронт уважае, што галоўнае пытаньне міжнацыянальных адносінаў на Беларусі — гэта лёс беларускай нацыі. Нацыя, упэўненая ў сваёй будучыні, з разуменьнем і глыбокай павагай ставіцца да праблемаў нацыянальных меншасьцяў, падтрымлівае іх нацыянальна-культурныя памкненьні. На Беларусі няма аб'ектыўных падставаў для міжнацыянальнай варожасьці. Беларускі Народны Фронт зробіць усё, каб захаваць і ўмацаваць найвышэйшую каштоўнасьць — традыцыйную ўзаемапашану, цярплімасьць адзін да аднаго. Толькі ў адзінстве мы непераможныя. БНФ выказвае абурэньне тым, што ідэялягічнае кіраўніцтва БССР, заяўляючы аб сваім інтэрнацыяналізьме са старонак сваіх выданьняў і, у прыватнасьці, «Политического собеседника» і «Вечернего Минска», зьневажае нацыянальныя і дэмакратычныя рухі Беларусіі іншых рэспублік, публікуе матар'ялы, скіраваныя на распальваньне міжнацыянальнай варожасьці. Ёсьць сілы, якія пад выглядам барацьбы зь ідэялягічным праціўнікам, спрабуюць убіць клін паміж Беларусамі і прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў, справакаваць узаемную варожасьць. БНФ «Адраджэньне» змагаецца зь любымі праявамі зьнявагі народаў, палкёпу на іх, адмяжоўваецца ад любых антысэміцкіх выхадак. Пры Сойме БНФ ствараецца камісія па міжнацыянальных дачыненьнях, якая будзе выкрываць дэзынфармацыю і тэндэнцыйнасьць у насьвятленьні нацыянальнага пытаньня, спрыяць паразуменьню і згодзе.

### Рэзалюцыя аб свабодзе сумленьня і беларусізацыі рэлігійнага жыцьця на Беларусі.

БНФ лічыць неабходным уключыць у канстытуцыю рэспублікі цьвёрдыя гарантыі дасягненьня і захаваньня сапраўднай свабоды і сумленьня чалавека, рэлігійнай талерантнасьці, роўнапраўя веравызнаньняў, а таксама веруючых і атэістаў. Выступае за стварэньне жыцьцяздольных адміністрацыйна-духовых цэнтраў і структур усіх традыцыйных для Беларусі канфэсіяў — як хрысьціянскіх, гэтак і нехрысьціянскіх, — за свабоднае існаваньне ўсіх навучальных і іншых установаў, манастыроў і ліцэяў, органаў друку.

БНФ выступае за перавод спакваля набажэнства і рэлігійнай дзейнасьці ў рэспубліцы на беларускую мову, асабліва ў хрысьціянскіх канфэсіях, не выключаючы магчымасьці выкарыстаньня іншых моваў у рэлігійнай практыцы там, дзе гэтага патрабуе нацыянальны склад веруючых.

БНФ адзначае, што гвалтоўная ліквідацыя ў 1839 і ў 1946 гадох вуніяцтва абмежавала свабоду веравызнаваньня жыхароў Беларусі, разьяднала народ, пазбавіла рэлігійнае жыцьцё краю яго нацыянальнай асновы. Адсутнасьць такой асновы і сёньня не садзейнічае адзінству.

### Рэзалюцыя аб дзяржаўнасьці беларускай мовы

Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» ўсімі законнымі сродкамі будзе імкнуцца да вяртаньня дзяржаўнага статусу беларускай мове, існаваўшага ў пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і ў першых дзесяцігодзях савецкай Беларусі. Толькі аднаўленьне статусу дзяржаўнасьці беларускай мовы можа прывесьці спачатку да фактычнага беларуска-рускага моўнага раўнапраўя, а пазьней — да прыярытэтнай ролі беларускай мовы на роднай зямлі. У той-жа час «Адраджэньне» выступае за гарантаванае свабоднае існаваньне моваў усіх нацыянальных меншасьцяў Беларусі, за валоданьне працаўнікоў кіраваньня і абслугоўваньня як беларускай, так і рускай мовамі. БНФ — за валоданьне рускай мовай як сродкам міжрэспубліканскіх зносін, за пашырэньне ведаў іншых моваў-сродкаў міжнародных зносін. БНФ распрацуе законапраект аб дзяржаўнасьці мовы і прапануе яго на ўсенароднае абмеркаваньне.

### Рэзалюцыя аб беларускай нацыянальнай сымболіцы

Спрадвечныя беларускія нацыянальныя сымболі — гістарычныя гэрбы гарадоў, зямель, аб'яднаньняў і, перш за ўсе, гэрб «Пагоня», бел-чырвона-белы колер — аснова гістарычнай памяці народу, сьветчаньне яго гістарычнай самабытнасьці і бясьсьмерця.

Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» не проціпастаўляе нацыянальную сымболіку дзяржаўнай, дабіваецца яе вольнага выкарыстаньня і прыняцьця статуту аб нацыянальнай, гістарычнай і рэлігійнай сымболіцы.

# ПРОСЬБА АБ ДАПАМОЗЕ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Чарнобыльская трагедыя выявілася большай, як пра яе казалі спачатку. Сотні тысячаў людзей на Беларусі апынуліся ў зоне зь небясьпечнай радыяцыяй. Каб памагчы ім, урад рэспублікі ня мае патрэбных сродкаў, фінансавых і тэхнічных. Дзеля гэтага некаторыя арганізацыі БССР зьвярнуліся да суродзічаў за мяжой з просьбай аб дапамозе. У «Заклiку да сучайчыньнікаў» («Зьвязда», 27.VII.89) сказана, што, незважаючы на выдаткаваны ўжо на мэты ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі мільярд рублёў, адчуваецца «войстры недахват некаторых радыяцыйных прыбораў і мэдыцынскага дыягнастычнага абсталяваньня».

Далей у закліку кажацца:

«Нам вельмі патрэбныя дазімэтры індывідуальнага і групавога карыстаньня, апаратура ультрагукавой дыягностыкі (многафункцыянальная), эндаскапічная апаратура для дасьледаваньня органаў грудной клеткі і органаў стараваньня, лічыльнікі выпраменьненьня чалавека, гэматалягічныя аўтаматы лябараторныя (фірмы «Сэквоя», ЗША).

«Заклапочаныя будучым здароўем пацярпелых ад радыяцыі людзей, мы зьвяртаемся да вас, нашы суайчыньнікі за рубяжом, па дапамогу. Мы з удзячнасьцю ўспрымем водгук ня толькі ад выхадцаў зь Беларусі, але і ад іншых добрых людзей, дабрачынных групаў або арганізацыяў.

«Беларускі камітэт абароны міру, Беларускі адзьдзел Савецкага фонду міру, Беларускае таварыства 'Радзіма', Беларускі фонд міласэрнасьці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, Беларуская епархія Рускай праваслаўнай царквы бяруць на сябе абавязак акуратна зьбіраць усё, што паступіць у Беларусь на ўпамянутыя мэты, абгрунтавана разьмяркоўваць тым, хто мае патрэбу, і строга кантраляваць мэтавае выкарыстаньне. Для гэтага мы маем неабходную колькасьць самадданых актывістаў.

«Можаце быць упэўненымі, нашы зарубежныя суайчыньнікі, што вашы добрыя дзеяньні і бескарысьлівасьць не забудуцца ўдзячным беларускім народам.

«Для паштовых адпраўленьняў паведамляем наш адрас: Беларускі камітэт абароны міру. Беларусь 220029, Менск, Старажоўская, 5».

Зварот падпісалі: **Іван Шамякін,** старш. Беларускага к-ту абароны міру; **Заір Азгур,** старш. Беларускага адзьдзелу Савецкага фонду міру; **Міхаіл Савіцкі,** стрш. Беларускага т-ва «Радзіма»; **Мікалай Саўчанка,** старш. Беларускага фонду міласэрнасьці і здароўя; **Васіль Сёмуха,** старш. Т-ва Чырвонага Крыжа БССР; мірапаліт Менскі і Беларускі **Філарэт.**

# *«НАРОДУ БЕЛАРУСІ ПАТРЭБНЫЯ ДАПАМОГА І РАТУНАК»*

***Заява Зянона Пазьняка***

Напярэдадні зьезду Беларускага Народнага Фронту, што адбыўся ў Вільні 24-25 чэрвеня сёлета, старшыня арганізацыйнага камітэту БНФ сп. Зянон Пазьняк у заяве для заходніх журналістаў сказаў пра чарнобыльскую радыяцыю:

«У зоне вельмі небясьпечнай для жыцьця людзей знаходзіцца больш за сто тысячаў людзей. Цяпер ужо хварэюць лейкеміяй дзесяткі тысячаў беларускіх людзей. Гэта ня лічачы іншых хваробаў, зьвязаных з абніжэньнем імунітэту ад радыяактыўнага ўзьдзеяньня. Дваццаць пяць працэнтаў нашых дзяцей ужо з функцыянальным недахопам шчытавіднае жалязы (вынік паразы ізатопамі ёду). Пачаўся рост ракавых хваробаў, хоць паводля прагнозаў вучоных гэта павінна было здарыцца пазьней, за пяць гадоў. Ёсьць выпадкі сьмерці ад рака дзяцей у веку да двух гадоў. Пра дзяцей Магілеўскае вобласьці ніхто ня турбуецца, іх нават ня вывозяць на лета з заражанае зоны. Усе яны аслабленыя. Апеку над магілеўскімі дзяцьмі пастанавіў узяць на сябе Беларускі Народны Фронт, але ўлады не прызнаюць народнага фронту, перасьледуюць яго прадстаўнікоў, робяць перашкоды. Ніякае сыстэматычнае мэдыцынскае дапамогі пацярпелым няма. Тое, што робіцца, — прафанацыя, бо няма нават неабходных прыбораў».

Пазьняк назваў чарнобыльскую і магілеўскую трагедыю «працягам генацыду». «Гэта, — сказаў ён, — сьведамае плянаваньне выміраньня нашага народу, выраджэньня й дэградацыі да падрыву ягонага здароўя. Улады ўсяляк перасьледуюць нават спробы жыхароў адзначыць жалобай трэція ўгодкі свае трагедыі.

«У Бабруйску міліцыя пабіла людзей, што адзначалі жалобу па Чарнобылі. У Менску ўлады перасьледуюць людзей, якія бралі ўдзел у Гадзіне чарнобыльскага смутку й маўчаньня. Народу Беларусі патрэбныя дапамога й ратунак». (Паводля латыскае расейскамоўнае газэты «Атмода», Рыга, 19.VI.89)

Пра заяву З. Пазьняка падаў уплывовы брытанска-амэрыканскі часапіс Nature (27.VII) у артыкуле Веры Рыч пад заг. «Беларусі дастаецца доза».

Вера Рыч інфармуе ў сваім артыкуле таксама пра беларускі рух «Адраджэньне», Курапаты ды пра заснаваньне Беларускага Экалягічнага Таварыства.

## ПОСТУП БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Устаноўны сход Таварыства Беларускай Мовы адбыўся ў Менску 27 чэрвеня сёлета. Узяло ўдзел каля 300 дэлегатаў, «прадстаўнікі амаль кожнага раёну Беларусі». За старшыню Таварыства абраны адзін з найбольш актыўных абаронцаў беларускае мовы, пісьменьнік і навуковец Ніл Гілевіч.

На зьездзе намесьнік прэм'ера рэспублікі Ніна Мазай сказала, што ў пэдагагічных інстытутах і унівэрсытэтах БССР «мяркуецца з новага навучальнага году перайсьці да выкладаньня на беларускай мове ўсіх гуманітарных і грамадзкіх дысцыплінаў» (ЛіМ, 30.VI).

У расейскамоўным выданьні газэты «Вечерний Минск», як падала газэта ЛіМ (30.VI), тэматычная паласа «З родных крыніц» «переведзена на беларускую мову, там-жа адкрываецца завочная школа для тых мянчанаў, якія жадаюць авалодаць беларускай мовай».

«На рэспубліканскім тэлебачаньні і радыё арганізаваныя новыя рубрыкі і цыклі перадачаў па праблемах разьвіцьця і павышэньню ролі беларускай мовы ў духовым жыцьці рэспублікі (ЛіМ, 30.VI).

На паседжаньні калегіі Міністэрства культуры БССР разглядалася пытаньне аб «пераводзе ўстановаў культуры на беларускую мову» (ЛіМ, 30.VI).

«Рэктары вышэйшых навучальных установаў (БССР) прышлі да вываду: без наданьня дзяржаўнага статусу (беларускай мове) праблему з мовай вырашыць немагчыма» (ЛіМ, 30.VI).

У Беларускім Інстытуце Народнай Гаспадаркі, на фінансава-эканамічным факультэце былі прачытаныя пабеларуску лекцыі аб разьвіцьці і разьмяшчэньні прадукцыйных сілаў беларускага эканамічнага рэгіёну. Пабеларуску будуць выкладацца і іншыя дысцыпліны. Апрацоўваецца «Кароткі слоўнік эканамічных тэрмінаў», загучэлі ў роднай мове перадачы інстытуцкага радыё, рыхтуецца да выпуску беларускамоўная шматтыражка «Экаваміст». («Зьвязда», 19.VII).

Газэта «Знамя юности», орган камсамолу Беларусі, пачала з нумару за 28 ліпеня сёлета беларускамоўную рубрыку «Родны склон». «Рэдакцыя спадзяецца, — сказана ўва ўступным слове, — што новая рубрыка зможа задавольніць зацікаўленьне да мінуўшчыны беларускага народу, якое зьяўляецца ў людзей, да ягонае мовы, традыцыяў і культуры».

## М. КУКАБАКА ІЗНОЎ АРЫШТАВАНЫ!



Як падала за «Экспресс-хроникой» (№ 32 за 6.VIII) парыская газэта «Русская мысль» (11.VIII.89), у Маскве 4 жніўня быў арыштаваны Міхал Кукабака за ўдзел у дэманстрацыі, арганізаванай групай «Свабодная эміграцыя». Дэманстрацыя адбывалася пад лёзунгам «Ганьба бюракратам зь Вярхоўнага Савету, якія ігнаруюць нашы дамаганьні аб дабраахвотным выхадзе з грамадзянства СССР». Былі арыштаваныя 32 асобы. Былога палітвязьня Міхала Кукабаку, паводля некаторых вестак, пасадзілі ў турму «Матроская цішыня».

Зьмешчаную тут фатаграфію Міхал Кукабака прыслаў нядаўна ў ЗША аднаму свайму суродзічу-Беларусу, зь якім ён лістуецца. Здымак зроблены ў лютым сёлета, два месяцы па выхадзе Кукабакі зь Пермскага лягеру палітычных зьняволеных.

## НОВЫ «ПРЭЗЫДЭНТ» БССР

Сэсія Вярхоўнага Савету БССР абрала за Старшыню Прэзыдыюму ВС рэспублікі (прэзыдэнта) Мікалая Дземянцея ў сувязі з тым, што папярэдні старшыня Георгі Таразевіч узначаліў Камісію нацыянальнай палітыкі й міжнацыянальных адносінаў Савету Нацыянальнасьцяў ВС СССР.

М. Дземянцей (нар. 1931 году) — Беларус, сябра партыі, выпускнік Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС. Працаваў выкладчыкам, галоўным аграномам, інструктарам Віцебскага абкому, першым сакратаром райкому, загадчыкам сельскагаспадарчага адзьдзелу ЦК КПБ, ад 1979 г. быў сакратаром ЦК КПБ. («Зьвязда», 29.VII.89)

## СССР: НОВЫЯ МЫТНЫЯ ПРАВІЛЫ

Як паясніў П. Крэчка, начальнік Беларускай тэрытарыяльнай мытні, «ад 1 чэрвеня 1989 г. пры ўвозе або перасылцы ў СССР камп'ютэрнай тэхнікі вышыня мыта збольшаная да 5000 рублёў за адзін камплект». (СБ, 23.VII.89).

Паводля газэты «Известия» (1.VIII), падвышанае таксама мыта і на сынтэзатары гуку. «Грамадзянам (СССР), — сказана ў «Известиях», — даецца права бязмытна правозіць якія хаця прадметы, калі яны купленыя за легальна заробленую валюту».

*СКАРЫНІЯНА*

## ФАКСЫМІЛЬНАЕ ВЫДАНЬНЕ БІБЛІІ



Факсымільнае выданьне Скарынавае Бібліі рыхтуе выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя», як падаў карэспандэнт ТАСС Аляксандар Вальвачоў зь Менску 3 жніўня. «Спэцыялісты выдавецтва, пасьля сыстэматызацыі ў кананічным парадку, сабралі ў трох 800-бачынкавых тамох усе 23 кніжкі Бібліі, выдрукаваных Скарынам у розным часе, — кажацца ў паведамленьні. — Іхны факсымільны тэкст дапоўнены ўкладкай пра жыцьцё й дзейнасьць самога Францішка Скарыны».

Беларускі Фонд Культуры ахвяраваў на выданьне 40 тысячаў рублёў. Заступнік галоўнага рэдактара выдавецтва Аляксандар Петрашкевіч сказаў, што для выдавецтва ня менш важны, як грошы, «ўдзел у гэтай культурнай акцыі простых людзей — тых, каму дарагая родная культура, роднае слова».

# МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Часапіс «Отчизна» выдаецца для эмігрантаў савецкім таварыствам «Родина». Гутарку зь мітрапалітам Менскім і Беларускім для гэтага часапісу правёў выкладчык Менскага інстытуту культуры Валеры Няфёд. Зусім натуральна, што Няфёд паставіў Уладыку гэткае пытаньне: «Удакладніце, калі ласка, пазыцыю царквы ў нацыянальна-моўнай, агульна-культурнай праблематыцы Беларусі. Бо што ні кажэце, а ёсьць маладыя людзі, апанаваныя нацыянальным пэсымізмам».

На гэта Мітрапаліт Філарэт адказаў: «Для такога пэсымізму няма асноваў: моладзь ня ведае ці слаба ведае, штó сабой прадстаўляла Беларусь да рэвалюцыі, ейная культура. Параўнаньне, штó мела нацыя да сацыялізму і штó яна дастала ў новым пэрыядзе свайго быцьця, памойму, вельмі красамоўна можа сьветчыць аб тым, што ў нас тут няма праблемы».

З гэтых словаў галавы Менскае епархіі выглядае, што просьба да Гарбачова ўратаваць беларускі народ ад «духовага выміраньня», зь якою зьвярнуліся ў сьнежні 1986 году 28 беларускіх акадэмікаў, пісьменьнікаў і навукоўцаў, ня мае пад сабою грунту. Выглядае, што Ўладыка Філарэт нічога ня ведае пра запраўдны паток жальбаў і нараканьняў на духова-нацыянальнае спусташэньне ў Беларусі, якімі запоўненыя старонкі пэрыядычнага друку рэспублікі.

Замежнаму чытачу часапісу «Отчизна» Мітрапаліт Менскі й Беларускі Філарэт сказаў: «У нас очень успешно развивается белорусская культура». Але чытачом газэты «Літаратура і Мастацтва» або «Чырвоная зьмена», прыкладам, гэткага ня скажаш, бо яны чытаюць якраз адваротнае — аб крызісе роднае культуры. Выглядае, што епархіяльнай управе ў Менску не пашкодзіла-б падпісацца на некаторыя беларускія газэты, каб належна інфармаваць Уладыку Філарэта аб тым, які запраўдны стан рэчаў у рэспубліцы.

Праўда, нельга сказаць, каб Мітрапаліт Філарэт быў зусім непаінфармаваны. Прыкладам, ён ведае, што беларуская моладзь узьнялася на абарону нацыянальнае культуры. У сувязі з гэтым ён сказаў у сваім інтэрв'ю: «І калі цяпер моладзь дамагаецца, каб багаслужба адбывалася ў сваёй нацыянальнай мове, царква гэтаму не пярэчыць. Дзеля гэтага, — сказаў Уладыка, я і паставіў пытаньне аб сучасным перакладзе ў беларускую мову Новага запавету, паколькі наяўныя пераклады далёка недасканальныя».

Цікава аднак, што Мітрапаліт паставіў пытаньне пра пераклад толькі Новага запавету. А чаму не ўсяе Бібліі? Няўжо беларускія вернікі і беларуская культура недаразьвіліся яшчэ да таго, каб мець усю Біблію ў сучаснай мове, і Стары запавет і Новы? Няўжо Беларусы ў 20-м стагодзьдзі ня могуць мець тое, што яны мелі ў 16-м, калі Францішак Скарына пераклаў усю Біблію ў тагачасную мову свайго народу?

Апрача гэтага, багаслужба гэта ня толькі Новы запавет. Багаслужба гэта і літургія, і малебны, і паніхіда, і казáні (пропаведзі), і трэбы розныя. А калі браць шырэй душпастырскую дзейнасьць царквы, дык гэта і календары, і часапіс, і бюлетэні царкоўныя.

Насьцярожвае і яшчэ адно выказваньне Ўладыкі Філарэта: «Мы павінны, — сказаў ён, — ачысьціць беларускую мову ад усіх напластаваньняў, каб яна запраўды была мовай народу, была прасякнутая народным духам, а не стваралася паводля 'прынцыпу' абы толькі ня быць падобнай да расейскае».

Уладыка, праўда, не сказаў, хто гэта «мы», якія будуць «чысьціць» беларускую мову «ад усіх напластаваньняў». Але, думаецца, цяпер гэтая справа ясная. Вось у канцы чэрвеня сёлета паўстала ў Менску Таварыства Беларускай Мовы, у статуце якога запісана, што яно «мае на мэце пашырэньне ўжытку беларускай мовы.., захаваньне яе чысьціні й самабытнасьці».

Але ці мае Мітрапаліт Філарэт намер супрацоўнічаць з гэтым Таварыствам, справа тымчасам ня высьветленая. Тое, што на ўстаноўным зьездзе ТБМ былі два беларускія каталіцкія сьвятары, але ніводнага праваслаўнага, наводзіць на думку, што Руская праваслаўная Царква на Беларусі яшчэ ня зусім пагадзілася з тым, што і для яе настаў час беларусізацыі.

**Янка Запруднік**

*ВАШ АБАВЯЗАК — ПАДТРЫМВАЦЬ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»*

## *НАЛАДЖВАЙМА СУВЯЗЬ З ТБМ!*

У статуце Таварыства Беларускае Мовы, прынятым устаноўным зьездам у Менску 27 чэрвеня сёлета, 9-ты пункт кажа: «Таварыства... наладжвае кантакты з суайчыньнікамі... за межамі СССР».

Беларусы на Захадзе не павінны чакаць, пакуль ТБМ наладзіць зь імі кантакт, а самі павінны кантактавацца з Таварыствам, пасылаючы лісты з заявамі аб сяброўстве. Статут ТБМ кажа: «Сябрам Таварыства можа быць кожны, хто падзяляе мэты ТБМ, спрыяе іх ажыцьцяўленьню: грамадзяне СССР, грамадзяне замежных краін». Да ТБМ могуць надлежаць таксама і арганізацыі.

Пра мэты Таварыства ў статуце сказана: «ТБМ мае на мэце пашырэньне ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця БССР, усебаковае яе разьвіцьцё, захаваньне яе чысьціні і самабытнасьці».

Складкі сяброў Таварыства: уступныя — 1 рубель, гадавая складка — 3 рублі. Кожны Беларус на Захадзе можа лёгка сабе дазволіць быць ня толькі сябрам ТБМ, але й шчодрым ахвярадаўцам.

Газэта «Беларус» заклікае сваіх чытачоў і суродзічаў наладжваць лучнасьць з Таварыствам Беларускае Мовы, пішучы тымчасам на адрас газэты «Літаратура і Мастацтва» (пакуль ТБМ займее свой афіцыйны адрас):

SOVIET UNION
BYELORUSSIAN SSR
220600, ГСП, Менск
вул. Захарава, 19
ЛіМ, ТБМ

## ПАДЗЯКА ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА

З падзякай адзначаем, што нам прыслалі газэтныя выразкі й іншыя прэсавыя матар'ялы наступныя асобы: А. Даніловіч, А. Арэшка, В. Трэмбіцкі, М. Давідзюк, М. Пашкевіч, Я. Міхалюк, В. Рамук, А. Лашук, Я. Мойсік, Т. Бэрд, Ул. Бакуновіч, Р. Тамушанскі, В. С., К. Верабей, В. Станкевіч, Н. Кудасава, М. Шведзюк, М. Раецкі, Л. Шурак, Ф. Бартуль, В. Сянькевіч.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

БЕЛАРУС № 361 Жнівень 1989 г.

# МІКОЛА КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ

**(1897-1969)**

*(Працяг; пачатак у № 358 і далейшых)*

У Чыкага Мікола Шчаглоў і Надзея Градэ хутка ўстанавілі рэпутацыю, іх рэгулярна запрашалі на выступленьні як гарадзкі Камітэт культуры на летнія канцэрты ў парку імя Гумбольта, гэтак і Аб'еднаньне Мастакоў Чыкага — на выступы ў Тэатры Музычнае Мініятуры. Зразумела, ніводнае беларускае сьвяткаваньне не абыходзілася бязь іхнага ўдзелу, асабліва адзначэньні ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка. Часамі бралі яны ўдзел і ў канцэртах іншых этнічных групаў, асабліва ўкраінскіх, польскіх і расейскіх.

Штадзённая дзейнасьць кампазытара Кулiковіча складалася зь індывідуальных лекцыяў музыкі выбраным вучням, якім ён арганізоўваў канцэрты ў залі Джозэфінскае сярэдняе школы. Там-жа ў лютым 1957 году адбыўся вялікі канцэрт клясычнае беларускае музыкі з удзелам выдатнага беларускага сьпевака-баса Пётры Конюха і Надзеі Градэ.

Куліковіч быў таксама на працягу 12 гадоў кіраўніком хору грэка-каталіцкае (вуніяцкае) царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Хоць ён і прабаваў увесьці ў рэпэртуар хору некаторыя свае экспэрымэнтальныя кампазыцыі, гэткія як «Тебе поем» (беларускі напеў) і «Отче наш», ён пабачыў, што цяжка замяніць усталяваную сынадальную традыцыю. Тым ня менш, ён бесьперапынна пісаў новыя літургічныя працы. Ягоны хор выступаў часамі на канцэртах ды браў удзел у экумэнічных багаслужбах, узначальваных каталіцкім кардыналам Стрыхам.

Як чалавек свабодны ад «штучнага вытанчэньня», ён у ніякім выпадку не абмяжоўваў сябе да клясычнага мастацтва й фальклёру. Цыганская песьні, танга, кабарэтныя бальляды ды лёгкая музычка — усё прыцягвала ягонае зацікаўленьне, і калі ў яго неставала грошай, ён заўсёды быў гатовы надзець акардэон і, за належную плату, унесьці свой уклад у вясёлую атмасфэру.

У Амэрыцы Куліковіч-Шчаглоў займаўся далей і журналізмам, рэцэнзуючы канцэрты ды пішучы артыкулы аб розных музычных аспэктах для беларускага замежнага друку; ён пісаў таксама для «Нового Русского Слова» і «России», цірэдчас на тэмы, зьвязаныя зь беларускай музыкай: творы Глінкі, Манюшкі, Грэчанінава, Іпалітава-Іванава.

У 1953 годзе Куліковіч-Шчаглоў апублікаваў гістарычны агляд «Беларуская музыка». За гэтым выйшла большая праца — «Беларуская савецкая опэра» (Мюнхэн, 1957), у якой апісаныя рэпрэсійныя абставіны, пры якіх даводзілася працаваць савецкім кампазытарам, ды ўплыў гэтых абставінаў на музычную творчасьць.

Неразлучным спадарожнікам кампазытара й музыкалёга была аднак нявычэрпная прыгожасьць беларускай народнай музыкі, што паланіла ягонае ўяўленьне ды прайшла як залатая нітка праз усю ягоную творчасьць. Ад ягонае раньняе «Беларускае сюіты», выкананае ў Адэсе, празь ягоныя сымфоніі й іншыя інструмэнтальныя творы, ягоныя опэры, піянінныя кампазыцыі, патрыятычныя песьні, рамансы, празь ягоную незраўнаную царкоўную музыку — гучыць рэха тых дзіўных, ня з гэтага сьвету песьняў: «Радзі, Божа, жыта», «На Йвана ночка маленькая», «А ў нас сяньня вайна была» ды шмат сотняў іншых, якія ён так беззаганна гарманізаваў. Некаторыя з гэтых песьняў, расьпісаныя для дуэту, трыё або чатырохгалосага хору ці аднагалосыя для суправаджэньня пад акампанімэнт піяніна, увайшлі ў ягоны найлепш знаныя выданьні, абодвы загалоўленыя «Беларускі песенны зборнік», што выйшлі ў Амэрыцы ў 1955 і 1960 гадох.

Першы зборнік выйшаў ратаратам у дзьвюх частках, блытана панумараваных 1 і 5 (!), у выдавецтве Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Кліўленьдзе ў штаце Агаё. У яго ўвайшлі розныя сэзонныя й абрадавыя песьні, а таксама рамансы й патрыятычныя творы, запісаныя або гарманізаваныя Р. Шырмам, З. Радчанкам, Ул. Тэраўскім, Сахаравам, Сербавам, Ягоравам і Сакалоўскім, але найбольш Куліковічам-Шчагловам.

Другі зборнік быў выдадзены грунтаўней, друкам, тым-жа Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў Кліўленьдзе. У ім больш за 90 песьняў і танцаў, усе апрацаваныя Куліковічам-Шчагловам, галоўна для галасоў зь піянінным акампанімэнтам. Песьні падзеленыя на пяць катэгорыяў: гістарычныя, рамансы й песьні на словы беларускіх паэтаў, лірычныя й народныя, папулярныя бальляды ды гульні й танцы. Гэта — толькі частка із спадчыны кампазытара ў гэтай галіне, але сюды ўключана найбольш ягоных улюбёных твораў: «Песьня каліноўцаў», «Ты прыйдзі», «Каб была я перапёлкай», «Васількі», «Позна сонца».

Невялікі зборнік з 14 калядкамі пад заг. «Калядоўшчыкі» выйшаў у Кліўленьдзе ў 1961 годзе з добра гарманізаванымі «А у сьвеце нам», «Учора зьвячора» ды «Ой, на моры, моры».

Пару Куліковічавых песьняў выйшла ў англамоўных зборніках, у тым ліку прыгожы харал на чатыры галасы.

Апошнім выданьнем ягоных твораў, таксама впушчаным Арганізацыяй Беларускае Моладзі, быў зборнік каля 60 твораў — «Беларускія песьні і танцы для акардэону» (Кліўленд, 1967). Куліковіч ставіўся да акардэону паважна, як да народнага інструмэнту, і з ахвотай даваў лекцыі маладым вучням.

Пад канец сваіх гадоў ансамбль Куліковіч-Градэ выступаў радчэй, і наш мінэстрэль вярнуўся да лёгкай музыкі: ён апрацаваў для акардэону найбольш папулярныя традыцыйныя беларускія мэлёдыі.

**Гай Пікарда**

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

### АДРАДЖЭНЬНЕ СКАЎТЫНГУ Ў СССР

Як паведамляе маскоўская «Экспресс-хроника», у Вільні 29-30 красавіка сёлета адбылася ўстаноўная канфэрэнцыя скаўтаў Літвы. Удзельнічала больш за сто скаўцкіх прадстаўнікоў зь Літвы ды госьці з ЗША. Літоўскія скаўты абвесьцілі сваім лёзунгам — «Богу, Бацькаўшчыне і бліжняму».

У сваім прывітаньні расейскім зарубежным скаўтам да 80-годзьдзя заснаваньня ў Паўлаўску ў 1909 годзе першага адзьдзелу юнакоў-разьведчыкаў старшыня рады Саюзу Скаўтаў Літвы напісаў: «Мы спадзяёмся, што моладзь расейскай нацыянальнасьці, якая жыве ў Літве, актыўна ўключыцца ў скаўцкі рух».

Гэтыя запросіны датычацца, зразумела, і да беларускае моладзі ў Літве. Той, хто цікавіцца скаўцкім пытаньнем у СССР, можа зварачацца да мяне па інфармацыю.

**Р. Палчанінаў**

R. Polchaninoff
6 Baxter Ave.
New Hyde park, N.Y. 11040
U.S.A.



*Сьвяткаваньне Купальля ў Гародні: усе чакаюць на «князя» Купаліша. Фота Барбары Кучынскай (Беласточчына).*

## КАНГРЭС НАРОДАЎ УСХОДНЯ-ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЭЎРОПЫ

15 ліпеня 1989 г. ў канадзкім горадзе Таронцье адбылася нарада прадстаўнікоў народаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы з мэтаю стварэньня кангрэсу гэтых народаў. Нарада была скліканая часовым камітэтам, сфармаваным у Парыжы, у склад якога ўвайшлі: сп.сп. Іштван Магас (старшыня), праф. Анджэй Каўчак, Андрэ Дэмбінскі і Ц. Мытроныч.

У нарадзе, што адбылася ў тарontаўскім Украінскім Цэнтры Культуры, узялі ўдзел прадстаўнікі Украінцаў: старшыня Сусьветнага Кангрэсу Вольных Украінцаў Юры Шымко, сакратар гэтага Кангрэсу Васыль Вэрыга, прадстаўнік Украінскага Камітэту Канады Яраслаў Саколык; ад Беларусаў: старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч і прадстаўнік Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня мгр. Васіль Плескач; ад Баўгараў: старшыня Баўгарскага Нацыянальнага Фронту і рэдактар газэты «Свабода» Петэр Пэльтэкоў; ад Палякоў: прадстаўнік Польска-Канадзкага Кангрэсу др. Анджэй Каўчак і заступнік старшыні гэтага Кангрэсу Тэрэса Кот; ад Румынаў: старшыня Румынскага Сусьветнага Кангрэсу Тудлор Бомпа; ад Чэхаў: прадстаўнік Чэхаславацкага Задзіночаньня Канады Ян Гашэк; ад Вэнгерцаў: прадстаўнік Сусьветнае Фэдэрацыі Змагароў за Свабоду Розэ Матраль.

За старшыню паседжаньня быў абраны сп. Ю. Шымко, былы пасол канадзкага Парляманту.

Др. А. Каўчак даў грунтоўны агляд мэтаў і заданьняў, якія стаяць перад народамі Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ды якія павінны быць зрэалізаваныя ў будучыні. У сучаснай Эўропе ідзе інтэнсыўны працэс інтэграцыі, сказаў дакладчык, і народы нашага рэгіёну, незважаючы на памылкі ў мінулым і тэрытарыяльныя прэтэнсіі, не павінны заставацца ізаляванымі, а мусяць шукаць паразуменьня й дзейнічаць супольна. За колькі гадоў Заходняя Эўропа будзе поўнасьцяй задзіночаная, каб супрацьставіцца адзіным фронтам усім магчымым цяжкасьцям і пагрозам. Паўстае пытаньне, ці народы Ўсходня-Цэнтральнае Эўропы будуць прыгатаваныя да гэткага выпадку. Дзеля гэтага якраз, сказаў др. Каўчак, нашыя народы таксама павінны дасягнуць поўнага эканамічна-палітычнага й культурнага аб'яднаньня, яны павінны падрыхтаваць пляны й выпрацаваць стратэгію на будучыню, бо адсутнасьць узаемнага зразуменьня можа прывесьці да поўнай дэградацыі і да ролі пасыўных статыстаў. Наш абавязак тут, у вольным сьвеце, разам з братамі на бацькаўшчыне, сказаў др. Каўчак, безадкладна дайсьці да еднасьці, каб не вялікія дзяржавы, а мы самі пастанаўлялі аб сваёй будучыні.

У вельмі цікавай і даўгой дыскусіі ўдзельнікі выказаліся на тэму запраектаванага кангрэсу. Актыўны ўдзел у абмяркоўваньні гэтага пытаньня ўзялі і беларускія прадстаўнікі.

Была прынятая пастанова правесьці ў верасьні сёлета яшчэ адну падобную падрыхтавальную нараду, каб яшчэ сёлета склікаць арганізацыйны зьезд для фармальнага стварэньня Кангрэсу Ўсходня-Цэнтральнае Эўропы.

**В. П.**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

### У Брадфардзе (Ангельшчына)

У нядзелю 16 ліпеня сёлета ў катэдры сьв. Пятра ў Брадфардзе адбылася ўрачыстая багаслужба з удзелам сьвятароў паасобных народаў на адзначэньне пачатку Тыдня Паняволеных Народаў. Пасьля багаслужбы нацыянальныя групы (Беларусы, Эстонцы, Вэнгерцы, Латышы, Літоўцы і Украінцы) прайшлі парадам праз цэнтар гораду, вакол будынку Гарадзкой Управы, да помніка Ваяком Свабоды, дзе сяброўкі Камітэту Паняволеных Народаў зложылі вянок жывых кветак.

На працягу цэлага тыдня (16-23 ліпеня) вакол Гарадзкое Ўправы віселі нацыянальныя сьцягі.

На заканчэньне Тыдня ў залі Украінскага грамадзкага цэнтру адбыліся ўрачысты мітынг і канцэрт. Сярод вялікае колькасьці запрошаных гасьцей на мітынгу былі лёрд мэр Брадфарду Джордж Годжсан з жонкай, прадстаўнікі ад палітычных, грамадзкіх і рэлігійных установаў ды арганізацыяў гораду й наваколья. Галоўным прамоўцам на вечары быў член Брытанскага Парляманту Гары Ўілэр.

Адкрыў мітынг і сказаў уступное слова старшыня К-ту Паняволеных Народаў сп. Гунард Гамсо (Латыш). Была прынятая рэзалюцыя.

Праграма кнанцэрту складалася зь песьняў і танцаў нацыянальных групаў, зь якіх найбольшую заслугу трэба прызнаць украінскай танцавальнай трупе «Крылатыя» з Брадфарду.

На супольным прыняцьці, якое прыгатавалі жанчыны ўкраінскае грамады, госьці мелі нагоду правесьці гутаркі на тэму дня й бягучых міжнародных падзеяў.

Ад Беларусаў на ўрачыстасьці былі сп. Алесь Калько, сталы прадстаўнік К-ту Паняволеных Народаў, і асобна запрошаны сп. Янка Калбаса.

# МІЖНАРОДНЫ ДРУК ПРА БІСКУПА КАНДРУСЕВІЧА

Газэты цэлага сьвету падалі, як пра вельмі важную падзею, пра назначэньне біскупа Тадэвуша Кандрусевіча апостальскім адміністратарам у Менску. Гэта першы выпадак, што каталіцкай царкве ў СССР надаецца структура вонках Прыбалтыкі.

Нямецкая газэта Die Welt (7.VIII) піша, што біскуп Кандрусевіч будзе займаць «дэ факто становішча прымаса Беларусі».

Амэрыканская газэта The Long Island Catholic (3.VIII) адзначае «джэнтэльмэнскае паразуменьне паміж Ватыканам і савецкім рэжымам, які не пярэчыў назначэньню новага апостальскага адміністратара для Беларусі». Газэта падала словы ватыканскага прадстаўніка, які сказаў, што вестка пра назначэньне біскупа Менскага «была амаль неверагоднай».

Каліфарнійская газэта The Tidings (Лёс-Анджэлес, 28.VII) адзначае «новы дух» савецкае палітыкі ў рэлігійных справах і нагадвае словы з заявы Ватыкану, што новы біскуп будзе мець «душпастырскую адказнасьць за ўсіх беларускіх каталікоў».

У шмат якіх паведамленьнях называўся лік каталікоў на Беларусі — два мільёны. Яшчэ большы лік падаецца ў цікавым артыкуле др. Збігнева Гаеўскага пад заг. «Каталіцызм на Беларусі» ў кракаўскай газэце «Пшэглёнд Каталіцкі» (28.V.89): «Паводля дадзеных Міністэрства культуры БССР за 1978 год, — піша аўтар, — на Беларусі жыло 2,25 міліёну рымакаталікоў». «Калі ад гэтага ліку, — піша др. Гаеўскі, — адняць 500 тыс. Палякоў, а таксама каля 250 тыс. тых, што неахвоча выяўляюць сваю нацыянальнасьць, то можна меркаваць, што Беларусаў-рымакаталікоў налічваецца блізу 1,5 мільёну».

Паводля савецкага перапісу жыхарства 1979 году, на Беларусі налічвалася крыху больш за 403 тыс. Палякоў.

У паведамленьні агенцтва «Каталіцкія Навіны», якое падалі шмат якія газэты, цытуецца выказваньне кіраўніка беларускае праграмы Ватыканскага радыё а. др. Рабэрта Тамушанскага, які сказаў: «Каталікі ў Беларусі маюць вельмі моцную веру і ня мелі свайго пастыра. Мы спадзяёмся, што новы біскуп выявіца лідэрам, асабліва ў справе ўвядзеньня беларускае мовы ў літургію».

Лёнданская газэта The Tablet (5.VIII), піша, што паколькі сваім часам савецкія ўлады не згадзіліся, каб а. Уладыслаў Чарняўскі быў біскупам і паколькі няма шанцаў на іншага біскупа-Беларуса, шмат хто зь беларускіх каталікоў чуўся-б лепш, калі-б біскупам быў Літовец або Латыш, а не Паляк. «Але партыйным і ўрадавым уладам у Менску, — піша The Tablet, — лепш Паляк, як Літовец. Афіцыйны перасьлед патрыятычнага адраджэньня ў Беларусі змусіў беларускіх актывістаў аднавіць старыя, гістарычныя сувязі зь Літоўцамі, нацыянальны рух якіх больш разьвіты. Літоўскі біскуп для Беларусаў узмоцніў-бы гэтае зблізжэньне. А Паляк можа расшчапіць ляяльнасьць сярод этнічных Беларусаў да Беларускага Народнага Фронту 'Адраджэньне', зь якіх шмат хто з гэтых людзей належыць да гэтай арганізацыі».

Зь біяграфічных дадзеных біскупа Кандрусевіча ведама, што нарадзіўся ён ў Адэльску на Горадзеншчыне. У горадзенскай ВНУ вывучаў матэматыку, а пасьля — у Ленінградзе архітэктуру. Сьвятаром стаўся ў 35 гадоў па сканчэньні ковенскае сэмінарыі.

Тымчасам жыве ў Гародні, служыць настаяцелем касьцёлу Сьв. Марыі, пакуль каталіцкая катэдра ў Менску, у якой дасюль мясьцілася спартовая арганізацыя, ня будзе перададзеная назад Каталіцкай Царкве.

## *ШЛЮБ КАРНЭЛІ НАЙДЗЮК*



6 травеня 1989 г. ў касьцеле сьв. Сэбастыяна ў горадзе Форт-Лёдэрдэйле у штаце Флярыда адбыўся шлюб Карнэлі Юльляны Найдзюк з Дэйлам Робэртам Бікнэлем. Карнэля Найдзюк заўсёды была актыўнаю ў беларускім грамадзкім жыцьці ў Каліфорніі. Яна належала да танцавальнай групы «Мяцеліца» пад кіраўніцтвам Каці Вініцкай, а таксама да лёсанджэлескага адзьдзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.

## Ф. СКАРЫНА: ПРАВАСЛАЎНЫ ЦІ НЕ?

Пад загалоўкам «Слова Божае для беларускага народу» «Журнал Московской Патриархии» (1989, №№ 4 і 5) зьмешчаны артыкул В. (У?) Дзяругі, у якім аўтар разглядае веравызнаньне Францішка Скарыны: праваслаўны ці каталік? «Скарынавы выданьні праваслаўныя зьместам, — піша Дзяруга, спасылаючыся на розныя вэрсіі, — прызначаныя перш-наперш духоўным патрэбам праваслаўнага жыхарства Беларусі». Разам з тым аўтар мусіць прызнаць і тое, што «вонкавы выгляд ягоных (Скарынавых) друкаваных выданьняў, гэтак непадобных на славянскія царкоўныя рукапісныя кнігі, таксама як-бы гаворыць пра іхную 'неправаслаўнасьць'». Гэткім чынам, пытаньне пра Скарынава веравызнаньне застаецца адчыненым.

Дзяруга адзначае прагрэсыўнасьць Скарыны як выдаўца й мастака.

«Як выдавец і мастак Скарына нашмат выперадзіў свой час. Ягоныя глыбока прадуманыя выданьні — гэта ўзор наватарскага сынтэзу старадаўных славянскіх рукапісных традыцыяў і дасягненьня заходняэўрапейскага кнігадруку... Ад тытульнага ліста да апошняга радка адчуваецца высокі мастацкі густ.

«Мастацтвазнаўцамі шмат напісана пра цудоўныя тэматычныя гравюры ў Бібліі Скарыны, пра раскошныя заставіцы і дзівосныя буквіцы, пра арыгінальнасьць, характво й наватарства тыпаграфскага шрыфту, у якім спалучаная яснасьць і простасьць лацінскага шрыфту эпохі Адраджэньня з рысамі беларускага паўуставу XV стагодзьдзя».

Выдатнага грамадзкага й палітычнага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў беларускага арганізаванага руху ў Заходняй Беларусі — Беларускага Студэнцкага Саюзу, Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры — былога старшыню Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Заходняй Беларусі, сябру Рады БНР, БІНіМ і БАЗА.

## др. БАЛЕСЛАВА ГРАБІНСКАГА

шчыра вітаем з нагоды 90-х угодкаў жыцьця, якія споўніліся 15 жнівеня сёлета, і зычым добрага здароўя і ўсякае памыснасьці на шмат гадоў.

**Сябры й супрацоўнікі**

*З жыцьця ў Пэрце (Зах. Аўстралія)*

## ГАДАВЫ СХОД СЯБРОЎ БАЎЗА

38-мы агульны гадавы сход сяброў Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі адбыўся 23 ліпеня ў залі Беларускага Народнага Дому. Дзеля адсутнасьці старшыні ўступаючай управы, сход вёў ягоны заступнік сп. М. Раецкі малодшы. Із справаздачаў сп. А. Мароза старэйшага і сп. М. Р. аб працы Беларускага радыякамітэту ды з праведзеных дыскусіяў выявілася, што ўправа выканала ўскладзеныя на яе абавязкі, за што ёй і быў прызнаны абсалюторыюм.

На новы гадавы тэрмін абраныя: Міхась Раецкі малодшы — старшыня, А. Мароз малодшы і Марылька Ёлаб — сакратары, А. Мароз старэйшы — скарбнік. Прадстаўнікамі ад беларускай грамадзкасьці ў Этнічны радыякамітэт абраныя сп-ні Э. Стыль і Е. Дамброўская.

На праведзеным паседжаньні новай управы было пастаноўлена падтрымаць фінансава БВФ у Мэльбурне, набыць паасобнікі кнігі «Беларуская Дзяржаўнасьць» ды былі разгледжаныя іншыя мясцовыя справы.

Адбыўся супольны пачастунак, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка сп-ням З. і М. Ёлаб і М. Мароз.

**Р. М.**

## НА СУСТРЭЧЫ З ПРЭМ'ЕРАМ АЎСТРАЛІІ

У нядзелю 16 ліпеня ў залі «Ле Міраж Цэнтар» у Пэрце адбылася сустрэча прадстаўнікоў этнічных групаў з прэм'ерам Аўстраліі Робэртам Гокам, штатным прэм'ерам П. Даўдынгам і штатным міністрам шматкультурнасьці І. Гілам. Мэтай спатканьня было выясненьне культурнай палітыкі фэдэральнага й штатнага ўрадаў.

Ад беларускай грамады на сустрэчы былі сп-тва М. і В. Раецкія. Мясцовы міністар шматкультурнасьці сп. Гіл, карыстаючыся статыстычнымі дадзенымі, гаварыў пра вялікі ўклад, які зрабілі ў разьвіцьцё Заходняй Аўстраліі пасяленцы-іміграныты.

З даўжэйшай прамовай выступіў прэм'ер фэдэральнага ўраду сп. Гок. Ён прыгадаў, як яшчэ студэнтам ён браў удзел у пашырэньні сьведамасьці сярод Аўстралійцаў аб важнасьці імігрантаў у жыцьці краіны. Прэм'ер Гок выказаў вялікае задаваленьне з таго, што іміграныты далі Аўстраліі, ды заахвочваў, каб ня толькі старэйшыя, але й маладое пакаленьне ня цураліся свае мовы, карысталіся ёю, працягвалі традыцыі сваіх бацькоў. Падобныя ж думкі выказаў і штатны прэм'ер сп. Пітэр Даўдынг.

Пасьля афіцыйнае часткі адбылося прыняцьцё.

Шмат каму з удзельнікаў сустрэчы глыбака запалі ў сэрца словы прэм'ера фэдэральнага ўраду Робэрта Гока: «Ня цурайцеся свае мовы, традыцыяў і культуры, бо ўсё гэта — частка агульнай аўстралійскай культуры». Гэтыя словы міжвольна выклікалі думку: а як-жа ставяцца да беларускай мовы ўрад і кампартыя савецкай Беларусі? У гэтак званай сувэрэннай Беларускай рэспубліцы ўсюды па афіцыйных месцах гучыць не беларуская, а расейская мова. І вось аб гэтай дыскрымінацыі беларускае мовы трэба інфармаваць сьвет як найшырэй!

**Р. М.**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ПІКНІК У ГАЙЛЕНД-ПАРКУ

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью-Джэрзы й Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў зладзілі пікнік, які адбыўся ў нядзелю 23 ліпеня пры царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку.

Нягледзячы на гарачы дзень, на пікнік прыбыло шмат суродзічаў зь Нью-Брансьвіку й ваколіц. Былі мілыя госьці зь Нью-Ёрку, Канэктыкуту, Масачусэтсу, Пэнсыльваніі й Каліфорніі.

Усе пабылі на сьвятой Літургіі, якую адправіў а. Васіль Андрэюк, і пасьля знайшлі сабе месца ў цені дрэваў за царкоўным будынкам.

Смачную ежу падрыхтавалі сяброўкі жаночай сэкцыі БАЗА сп-ні Т. Януш, Г. Каранеўская, Л. Гутырчык й О. Тулейка. Сп. Л. Шурак пасьпяхова правёў лятарэю. Вельмі цікавай і прыемнай была інфармацыя сп-ні Алы Орса-Рамана пра паездку танцавальнага ансамблю «Васілёк» у Беласток у чэрвені сёлета. Усе былі ўдзячныя нашай моладзі пад кіраўніцтвам Юркі Азаркі й Алы Орса-Рамана за падарожжа на Беласточчыну, за лучнасьць з Бацькаўшчынай.

Старшыня адзьдзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы сп. М. Тулейка гаварыў пра 40 год існаваньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы.

Айцец Васіль і сп. А. Шукелайць, сп-ня В. Бартуль, сп.сп. Ю. Станкевіч і В. Русак паінфармавалі пра іншыя актуальныя царкоўныя й грамадзкія справы.

Прыемную музыку й мікрафон уладзілі спадарства Суботы. Ва ўсім было прыкладнае супрацоўніцтва арганізатараў і ўдзельнікаў пікніку.

Управы адзьдзелу БАЗА й ЗБАВ у Нью-Джэрзы шчыра дзякуюць усім за фанты ў лятарэю, за прысланыя ахвяры і за ўдзел у пікніку, які значна папоўніў касу арганізацыяў на далейшую дзейнасьць.

## «ПАРАДАК СЬВЯТОЙ ІМШЫ

«ПАРАДАК СЬВЯТОЙ ІМШЫ З НАРОДАМ» — пад гэткім загалоўкам выйшла летась у Лёндане і Вішневе (БССР) вялікага фармату брашура (33 бб.), у якой пададзены беларускі тэкст багаслужбы для Беларусаў-каталікоў Рымскага абраду. Тэкст зацьверджаны Апостальскай сталіцай. Набыць публікацыю можна ў Беларускім Каталіцкім Душпастырстве ў Лёндане, пішучы на адрас:

Apostolic Visitor for Byelorussians
Marian House
Holden Avenue
London N12 8NY
ENGLAND

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛЬ ПУНТУС



Сумная вестка аб сьмерці 7 ліпеня сёлета ў Сыракузах у штаце Індыяна на 69-м годзе жыцьця сьп. пам. Васіля Пунтуса была балючай для беларускага грамадзтва. Стойка змагаўся ён зь лютай хваробай рака да канца, ня трацячы нават гумару ў гутарках зь іншымі. На небасьхіле свайго жыцьця ў травені месяцы сёлета, прадчуваючы, што набліжаецца наканаваны канец, прасіў, каб напісаць пасьмяротнае слова...

Сьв. пам. Васіль Пунтус нарадзіўся 29 сакавіка 1920 году ў вёсцы Асташкавічы на Гомельшчыне. Меў скончаную 10-годку й два гады вайсковай школы.

На эміграцыі браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці. Быў адным з закладчыкаў беларускага праваслаўнага прыходу сьв. Юр'я ў 1959 годзе ў Чыкага, а таксама Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага ды настойліва падтрымваў ужываньне арыгінальнага назову Беларусі ў ангельскай мове.

Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Кацю, чацьвёра дзяцей, чацьвёра унукаў, а на Беларусі — чатырох сясьцёр, двух братоў і шмат племяньнікаў і пляменьніц.

У панядзелак 10-га ліпеня ў праваслаўнай украінскай царкве ў Гошане (Індыяна) сербскі сьвятар адслужыў паніхіду. Прыгожа пяяў хор журлівыя хаўтурныя песьні. Сьвятар у прынагоднай казані паангельску гаварыў пра вартасьці хрысьціянскага жыцьця ды стойкасьць характару нябожчыка.

Вялікі цуг аўтамабіляў прыяцеляў сьв. пам. В. Пунтуса суправаджаў дамавіну да магільніка ў Сыракузах. Прыгожыя вянкі ад сям'і й прыяцеляў, а сярод іх і вялізны кошык кветак зь белчырвона-белымі калёрамі ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, ляжалі ля дамавіны.

Разьвітальнае слова пасьля малітвы сказаў пабеларуску др. Вітаўт Рамук, выказаўшы спачуваньні сям'і й сваяком памерлага. Прамоўца нагадаў выслоўе славутага нямецкага паэта Гетэ: «Толькі чалавек, які ўсё жыцьцё працаваў, мае права сказаць: 'Я жыў!'» Сьв. пам. Васіль Пунтус аддана працаваў для беларускае справы. У часе свайго старшынства ў Беларускім Каардынацыйным Камітэце ад 1973 да 1983 году ён праявіў зацікаўленьне беларускай справай і сваю ахвярнасьць. Быў ён спагадлівым чалавекам і патрапіў зыйсьціся з кожным.

Сп-ня Вера Рамук прамаўляла паангельску, выказаўшы спачуваньне сям'і ды падкрэсьліўшы высокія маральныя й нацыянальныя якасьці нябожчыка.

Разьвітаўшыся кіданьнем кветак на дамавіну, грамада паехала на памінальную пачостку, дзе прамаўляла сп-ня Гулевіч.

Вечная памяць шчыраму Беларусу Васілю Пунтусу.

**Др. Вітаўт Рамук**

## СЬВ. † ПАМ. ГЭЛЕНА ЗДАНКОВІЧ

Нарадзілася 13 жніўня 1901 г. ў вёсцы Касьцюкі Шаркаўскага раёну. Адыйшла на вечны супачынак 2 ліпеня 1989 г. ў Лёндане. Пахаваная ў Грынфорд Парк магільніку, пра што з глыбокім сумам паведамляюць

**сын Алесь і дачка Сарафіна**

## СЬВ. ПАМ. ГЭЛЕНА ЗДАНКОВІЧ

Пасьля цяжкой хваробы адыйшла ў вечнасьць 2 ліпеня 1989 г. сьв. пам. Гэлена Здановіч (нар. 13.VIII. 1901 г. ў в. Касьцюкі Шаркаўскага раёну). Паходзіла зь сялянскай сям'і, а таму жыцьцё ня было салодкім.

Хоць асьветы школьнай маль што ня мела, аднак адчувала неадрыўную патрэбу кніжкі і выпрацавала здольнасьць карыстацца ёю, якую выкарыстала пасьля для чытаньня сьв. Бібліі.

Расказвала свае цяжкія перажываньні зь Першае сусьветнае вайны. Пасьля, выйшаўшы замуж, мела лягчэйшае жыцьцё. Выгадавала сына Аляксандра й дачку Сарафіну, і абдарыла іх тым, чым яна жыла праз свой гаротны век, а менавіта передала ім сваю любоў да Бога, да бліжняга, а панад ўсё да свайго краю Беларусі. Была вельмі гордая за сваіх дзяцей, што выйшлі ў сьвет.

Знала мноства народных песень, звычаяў і пагаворак, прыказак і таму часта была запрашаная на вясельлі, хрэсьбіны, паховіны і да т.п. Казала, што на пачатку Другой сусьветнай вайны малады беларускі фальклярыст Хвашчынскі прыяжджаў з Шаркаўшчыны й запісаў некалькі старынных беларускіх песень.

Вайна разлучыла з сынам і дачкой, і толькі пад канец 1946 году бацькі даведваюцца, што сын Аляксандар жыве ў Вялікай Брытаніі, а пад канец 1947 году дачка Сарафіна паведамляе бацьком, што й яна жыве ў В. Брытаніі, і ўвесну 1948 году ў Лёндане спатыкаюцца брат зь сястрою.

У 1962 годзе памірае муж Юстын у веку 74 гадоў і пакідае ў пажылым веку ўдаву. Перад сьмерцьцю муж выказаў прарочыя словы: «ты яшчэ можа дажывеш і ўбачышся зь дзецьмі».

Па сьмерці мужа ў 1962 годзе, пасьля доўгіх стараньняў праз сына й дачку ў Англіі — найцяжэй было са здабыцьцём дазволу на выезд у мясцовых уладаў там на Бацькаўшчыне — дастала дазвол на выезд і ў студзені 1964 году прыбыла ў Англію. Бог дазволіў ёй спалучацца зь дзецьмі. Адчувала сябе вельмі шчасьлівай толькі часта выказвала сум па блізкіх і знаёмых, якія засталіся там у краі.

Паховіны адбыліся 11 ліпеня на могільніку ў Грынфорд-Парку ў прысутнасьці вялікай колькасьці суродзічаў і прыяцеляў іншых нацыянальнасьцяў. Паніхіду адправіў а. Янка Пякарскі, а. А. Надсон прачытаў Апостала.

Хаўтурная бяседа адбылася ў доме дачкі й зяця сп-ва Грэмякаў, у часе якое дзеці пакойнай выказалі падзяку ўсім за ўдзел у паховінах і спачуваньні.

Ад сябе й сяброў ЗБВБ гэтым выказваю самае глыбокае спачуваньне сябру Алесю й ягонай сястры Сарафіне.

**Янка Саўковіч**

**Іван Рубін**

## *Тры скураныя цені*

**МІКРАПАЭМА**
**(урывак)**

У прытулках мядзьведжых.
Чорнаю — Белая Вежа.
Нямы — Сафійскі Сабор.
А сыны былі ўсе на падбор.
Было ўсё —
І нічога ня маем.
Памяць наша нямая
Неўзаранай зямлёю рыдае —
Айчына — як пустая адрына.
Біблія Скарыны...
Каліноўскага меч...
І ляцелі галовы з плеч.
Вам захацелася мовы?
Людзьмі захацелася звацца?
Волі захацелася, братцы?
...З крывёй вырывалі словы,
Каб ня ведаў я кораня роду.
«Бацька наш родны,
Яснейшы ад сонца»,
Свяціўся ў кожнай хаціне.
А людзі елі бацьвіньне,
Ці быў ураджай,
Ці быў недарод.
У пашане быў крот,
А новы гісторык
Шчыраваў, як тхорык,
Каб ачмурыць народ
Марксысцкім запалам
І накарміць лебядою,
Бядою.
«До спаць! паўстаньце грамадою!»
Ды маўчаў наш пясьняр...
А вылюдкі крычалі!
— Памерла!
Мовы не стала,
Апошнім пякельніцтвам.
— Які вы народ?
Вы — насельніцтва
Гісторыя зьнікла,
зьнямела,
прапала, —
Вар'яцеў фэадал Цанава...
Не!!!
Гісторыя ёсьць.
І мова ёсьць...
Народу —
ня гурту!
І мы —
не манкурты!
Ёсьць Колас.
Купала...
Ды сёньня
Гэтага
Мала...

*«Чырвоная зьмена», 8.XII.88*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Т. Цярэшка | ам. д. 100 |
| М. Возьняк-Гаўрылюк | 50 |
| Я. Дзядовіч (у памяць мужа Дзімітра) | 30 |
| П. Драздоўскі | 30 |
| П. Алексы | 30 |
| Б. Дубоўскі | 30 |
| У. Бакуновіч | 30 |
| Т. Пятроўскі | 30 |
| А. Акановіч | 30 |
| Л. Літаровіч | 25 |
| В. Дутка | 25 |
| П. Кулеш | 25 |
| Л. Шурак | 25 |
| В. Ярашэвіч | 20 |
| М. Януш | 20 |
| Я. Бабіцкі | 20 |
| Р. Стоцкі | 20 |
| А. Нэстар | 20 |
| Я. Сажыч | 20 |
| Я. Канарчук | 20 |
| М. Войтэнка-Васілеўская | 20 |
| С. Кірылік | 20 |
| Ю. Стагановіч | 20 |
| М. Шчорс | 20 |
| М. Смаршчок | 20 |
| М. Сьнежка | 20 |
| Усяго | 720 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К. Мерляк | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| К. Пунтус (у памяць мужа Васіля) | 100 |
| Я. Чорны (заміж кветак на магілу с.п. В. Жук-Грышкевіча) | 50 |
| Ч. Найдзюк | 50 |
| Ф. Бартуль | 50 |
| К. Пунтус | 20 |
| В. Фішчэнка | 20 |
| Хв. Кажаневіч | анг.ф. 15 |
| М. Булыга | фр.фр. 50 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Заміж кветак на магілу сьв. пам. Гэлены Здановіч:*

| | |
|---|---|
| Сенька Мікалай і жонка Мадэлейн | анг.ф.20 |
| Саўковіч Ян і дачка зь зяцем Браўн | 20 |
| Сп-тва Міхалюкі | 10 |
| Сп-тва Асіповічы | 10 |
| А. Ражанец з дачкой Анітай | 10 |
| Янка Запруднік (ЗША) | ам.д. 20 |
| Франьціш і Вера Бартулі (ЗША) | 20 |
| Уладзімер і Аліна Курылы (ЗША) | 20 |

***Новае на кніжную паліцу***

**Ян Пятроўскі**. МЭМУАРЫ. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце (1905-1945). Кніга першая. Выданьне Беларускага Дабрадзейнага Асьветнага Фонду (Byelorussian Charitable Educational Fund, 1716 NE 7th Terrace, Gainesville, Fla 32609, USA), Слуцак-Гэйнсвіль, 1988. 347 б., ілюстрацыі.

КАНТАКТ. Шляхі беларускай думкі (артыкулы, матар'ялы, літаратурныя творы). 1989, № 2. 48 б. Выдавецтва «Кантакт» (Беласточчына).

**Вільгэльм фон Гумбольдт**. УНУТРАНАЯ ХВОРМА МОВЫ. У перакладзе Яна Пятроўскага. Гэйнсвіль, 1989. 15 б. Выд. Бел. Дабрадз. Асьв. Фонду.

**Анатоль Бярозка**. АДЗІНАЦЦАЦЬ ВЕРШАЎ (з уступам паангельску й ангельскім перакладам усіх вершаў). Выдаў Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок з дапамогаю Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Мантысэля ў Мінэсоце, ЗША, 1989. 28 б.

**Масей Сяднёў**. А ЧАСУ БОЛЬШ, ЧЫМ ВЕЧНАСЬЦЬ. Вершы і нарыс пра паэзію М. Сяднёва. Нью-Ёрк, 1989. 141 б.

BYELORUSSIAN STATEHOOD. Reader and Bibliography. Eds Vitaut and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988. 398 p., illustrated.

BYELORUSSIAN (Bielarusian) REVIEW. Quarterly Information Bulletin. Issue 1-2, March-July 1989. 8 p., illustrated. Published by Byelorussian-American Association, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. Annual subscription: $15.

**Зьніч**. САНАТА РОСТАНІ. Паэзія. Выд. «Бераг» (Беласток), 1988. 33 б.

MIĘDZYMORZE. N. 5 (Варшава, вясна 1989). Артыкулы й матар'ялы да польска-беларускіх і польска-ўкраінскіх дачыненьняў. 68 б.

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА Ў САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Дакумант аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі. Выд. Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Лёндан, 1988. 38 б.

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*(Працяг; пачатак у № 359)*

## САЦЫЯНАЛЬНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

*(Працяг)*

8. БНФ лічыць, што для вырашэньня жыльлёвай праблемы неабходныя:

— адмена дзяржаўнай пошліны на жыльлё, якое пераходзіць грамадзянам у спадчыну (у спадчыну павінны пераходзіць і каапэратыўныя кватэры), справядлівае разьмеркаваньне дзяржаўнага жыльля пад публічным кантролем;

— залежнасьць платы за дзяржаўнае жыльлё ня толькі ад плошчы кватэраў, але й ад іх якасьці, а таксама ад экалягічнага стану мясцовасьці;

— асобная сыстэма платы за звышнарматыўную плошчу дзяржаўнага жыльля;

— нізкапрацэнтавыя і беспрацэнтавыя крэдыты для індывідуальнага будаўніцтва.

9. БНФ лічыць надзённай сацыяльнай і маральнай задачай адраджэньне вызначальнай ролі сям'і ў грамадзтве і яе ўмацаваньне, адзначае асаблівую ролю маці ў сям'і, лічыць выхаваньне дзяцей у сям'і справай важнай і пачэснай, патрабуе юрыдычна прыраўнаць выхаваньне дзяцей да іншых відаў грамадзка карыснай дзейнасьці. БНФ выступае за скарачэньне ўдвая (пры поўным захаваньні заработнай платы рабочага дня жанчын, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, лічыць неабходным павялічэньне (за кошт пераразьмеркаваньня грамадзкіх фондаў) аплочанага дзяржавай адпачынку для выхаваньня і догляду дзіцяці да трох гадоў, а ў пэрспэктыве — да школьнага ўзросту. Жанчыны не павінны працаваць на цяжкіх фізычных, падсобных і шкодных для здароўя работах, у начныя зьмены.

Сям'я патрабуе больш істотнай падтрымкі дзяржаўнай сацыяльнай службай, бо для паўнацэннага духовага і фізычнага разьвіцьця дзяцей неабходны адпаведны матар'яльны ўзровень. Дзейсным сродкам дапамогі сем'ям на Беларусі могуць стаць даплаты да заробку або акладу з улікам колькасьці непаўналетніх дзяцей, а таксама ўтварэньне спэцыяльнага рэспубліканскага Сямейнага фонду для падтрымкі маладых сем'яў. Статысячная чарга на месца ў дзіцячым садку — ганьба для Рэспублікі. Яе неабходна тэрмінова скараціць да мінімуму, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці для будаўніцтва дзіцячых дашкольных установаў.

10. БНФ канстатуе, што ў дзяржаве адсутнічае колькі-небудзь прадуманая маладзёжная палітыка. БНФ лічыць, што нізкія заробкі моладзі, праца на састарэлым абсталяваньні, абмежаванасьць пэрспэктываў росту, цяжкасьці з атрыманьнем жытла і г.д. вядуць да сацыяльнай апатыі, бяздуховасьці, прававога нігілізму маладых людзей. Рэспубліка, зацікаўленая ў сваёй будчыні, мусіць выпрацаваць канцэпцыю маладзёжнай палітыкі, якая палегчыць маладым жыцьцёвы старт.

11. БНФ будзе дамагацца:

— устанаўленьня на справе сацыяльнай справядлівасьці ў дачыненьні да пацярпелых салдатаў і афіцэраў — удзельнікаў афганскай вайны; распаўсюджваньня на іх ільготаў, якімі карыстаюцца вэтэраны Вялікай Айчыннай вайны; належнай дапамогі сем'ям палеглых;

— стварэньня рэспубліканскае службы сацыяльнай дапамогі адзінокім састарэлым (асабліва вяскоўцам), вэтэранам вайны і працы; кардынальнага паляпшэньня сацыяльна-культурнага забесьпячэньня дзіцячых дамоў, спэцшколаў і інтэрнатаў, дамоў састарэлых; дзейснай падтрымкі дзяржавай і грамадзкасьцю адпаведных фондаў міласэрнасьці; дазволу рэлігійным арганізацыям весьці дабрачынную працу;

— адпаведных умоваў для ўдзелу школьнай і студэнцкай моладзі, пэньсіянераў у грамадзка карыснай працы;

— стварэньня ўмоваў для сацыяльнай, маральнай, працоўнай, творчай, рэгабілітацыі інвалідаў;

— прызнаньня прафэсійнага статусу высокаклясных спартсмэнаў, вырашэньня пытаньняў справядлівай аплаты іхняй працы, сацыяльнай адаптацыі пасьля заканчэньня спартыўнай кар'еры;

— усталяваньня законнасьці і сацыяльнай справядлівасьці ў месцах зьняволеньня, папраўча-працоўных установах.

12. У шэрагу раёнаў Рэспублікі працягваецца працэс рэзкага зьмяншэньня колькасьці вясковага насельніцтва. Асабліва нізкі жыцьцёвы ўзровень у гэтых раёнах патрабуе абвясьціць іх зонай найбольшай сацыяльнай увагі. БНФ лічыць, што неабходна выпрацаваць пэрспэктыўную праграму адраджэньня такіх раёнаў, у першую чаргу — усходу Беларусі, і тэрыторыяў, дзе найбольш праявіліся катастрафічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Мэтазгодна стварыць адпаведныя грамадзка-культурныя таварыствы з мэтай кансалідацыі выхадцаў зь небясьпечных, радыяактыўна забруджаных зонаў для вырашэньня сацыяльных пытаньняў і захаваньня культурнай самабытнасьці.

13. У барацьбе за дасягненьне сацыяльнай справядлівасьці БНФ разьлічвае на супрацоўніцтва зь дзяржаўнымі і грамадзкімі арганізацыямі, найперш з прафсаюзамі Рэспублікі. БНФ заклікае беларускія прафсаюзы не дапусьціць валявога падвышэньня цэнаў і зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню народу, распрацаваць уласную праграму абароны правоў працоўных. БНФ лічыць неабходным прыняцьце Закону аб прафэсійных саюзах, які-б гарантаваў свабоду ўтварэньня і самастойнасьць такіх арганізацыяў у Рэспубліцы.

## ЭКАЛЁГІЯ

Сацыяльна-эканамічны прагрэс і духовае адраджэньне народу ня маюць сэнсу, калі пад пагрозай яго фізычнае існаваньне. Экалягічны стан многіх раёнаў Беларусі дасягнуў небясьпечнай мяжы і ўвесь час пагаршаецца, навакольнае асяродзьдзе становіцца няпрыдатным для жыцьця. Звыш усялякай меры загазаваныя многія гарады. На кожнага жыхара Рэспублікі прыпадае па некалькі цэнтнэраў шкодных выкідаў у год. Ідуць кіслотныя дажджы. Атрутныя рэчывы, у тым ліку нітраты і іртутныя злучэньні ўсё часьцей трапляюць у прадукты харчаваньня, грунтовыя і падземныя воды. Значная частка тэрыторыі Рэспублікі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС забруджаная доўгатрывалымі радыянуклідамі, што можа выклікаць ракавыя захворваньні, цяжкія генэтычныя парушэньні. Але гэты тып забруджаньня ніяк не кантралюецца, яго памеры і небясьпека для здароўя хаваюцца ад насельніцтва.

Страцілі чысьціню воды рэк і азёраў. Па-драпежніцку нішчацца лясы Беларусі, запаведныя пушчы. Ідзе татальная непрадуманая мэліярацыя. Стала бракаваць вільгаці, многія землі перасохлі. У такіх умовах немагчымы ані здаровы лад жыцьця, ані аптымістычны погляд у будучыню.

Эканамічныя і адміністрацыйныя захады слаба дапамагаюць ахове прыроды. Галоўная прычына гэтага — дыктат саюзных міністэрстваў і ведамстваў, адносіны бюракратыі ад Рэспублікі як да нарыхтоўчай канторы, беспакаранасьць адміністрацыі на месцах. Недастковы кантроль за станам прыроды, экалягічная неадукаванасьць і палітычная пасыўнасьць насельніцтва толькі замацоўваюць такое становішча.

1. БНФ «Адраджэньне» выступае за стварэньне на Беларусі здаровага навакольнага асяродзьдзя, за комплекснае і абачлівае прыродакарыстаньне, за эфэктыўную сыстэму аховы прыроды і яе рэсурсаў.

2. Кожны чалавек мае натуральнае канстытуцыйнае права на здаровае жыцьцёвае асяродзьдзе. Каб забясьпечыць гэтае права, БНФ лічыць неабходным:

— дамагчыся поўнага сувэрэнітэту Рэспублікі ва ўсіх пытаньнях разьмяшчэньня вытворчасьцяў на тэрыторыі, у іншых зьвязаных з экалёгіяй пытаньнях;

— патрабаваць ад міністэрстваў і ведамстваў поўнай кампэнсацыі шкоды, нанесенай прыродзе і насельніцтву Беларусі;

— забясьпечыць поўную публічнасьць у экалягічных пытаньнях, шырока інфармаваць насельніцтва пра сапраўдны экалягічны стан прыроды і жыцьцёвага асяродзьдзя ў кожнай вобласьці, раёнё, горадзе, вёсцы. Асабліва гэта датычыць раёнаў, пацярпелых ад радыяцыйных выкідаў Чарнобыля;

— увесьці для ўсіх бяз выключэньня галінаў народнай гаспадаркі плату за прыродныя багацьці, што прымусіць гаспадарнікаў дбаць пра эканомнае спажываньне прыродных рэсурсаў;

— узмацніць крымінальную адказнасьць за раскраданьне, марнатраўства прыродных рэсурсаў, пагаршэньне экалягічнага стану жыцьцёвага асяродзьдзя, зьнішчэньне прыроды;

— утварыць на ўсіх прадпрыемствах прыродаахоўныя фонды;

— падрыхтаваць і ўвесьці рэспубліканскія нарматыўныя парамэтры чысьціні асяродзьдзя, якія-б адпавядалі сусьветным стандартам;

— узаконіць абавязковую навукова-экалягічную экспэртызу на стадыі тэхніка-эканамічнага абгрунтаваньня ўсіх бяз выключэньня народна-гаспадарчых праектаў, ажыцьцяўленьне якіх здольна ўлываць на стан прыроды;

— шырока і публічна абмяркоўваць плянаваныя буйныя мерапрыемствы, зьвязаныя з выкарыстаньнем прыродных рэсурсаў, праекты, выкананьне якіх можа ўплываць на якасьць асяродзьдзя і здароўе насельніцтва, праводзіць грамадзкія экалягічныя экспэртызы гэтых праектаў;

— спыніць драпержніцкую эксплюатацыю прыроды дзеля хвіліннай карысьці ў сельскай гаспадарцы, для чаго найперш вярнуць селяніну юрыдычны і эканамічны статус сапраўднага гаспадара зямлі; прывесьці ў адпаведнасьць з экалягічнымі патрабаваньнямі тэхналёгію прамысловай жывёлагадоўлі, непамерна сканцэнтраванай у буйных комплексах; наладзіць вытворчасьць якасных і чыстых харчовых прадуктаў; адмовіцца ад татальнай хэмізацыі сельскае гаспадаркі, эканамічна зацікавіць земляробаў у біялягічных спосабах аховы расьлінаў, прыярытэтна разьвіваць навуковую мэтодыку біяаховы;

— пільна кантраляваць наяўнасьць шкодных рэчываў у сельскагаспадарчай прадукцыі; пазначаць на ўпакоўцы, на тары, і ў вітрынах калярыйнасьць харчовых прадуктаў, утрыманьне ў іх нітратаў, пэстыцыдаў, радыянуклідаў; забясьпечыць прадуктовыя крамы прыборамі для экспрэс-аналізу па жаданьні пакупнікоў; увесьці розныя закупныя цэны на чыстыя і параўнальна чыстыя прадукты харчаваньня; не дапускаць у продаж радыяцыйна і хэмічна забруджаных прадуктаў;

— пазбавіць мэліяратараў цэнтралізаванага фінансаваньня, каб вытворцы сельскагаспадарчае прадукцыі самі заказвалі мэліярацыйныя працы і аплочвалі іх адпаведна якасьці. Усе мэліярацыйныя працы павінны праектавацца і выконвацца пад пільным экалягічным наглядам;

— прызнаць наяўную практыку асушэньня тарфянікаў, разворваньне паплавоў, абвалаваньне рэк, у першую чаргу Прыпяці, пры адначасовым запусценьні і звырадненьні старых ворных земляў палітыкай часовага посьпеху, драпежніцкай формай гаспадараньня за кошт інтарэсаў нашчадкаў. Сьціраваць асноўныя намаганьні мэліяратараў на рэгенэрацыю і рэкультывацыю сельскагаспадарчых плошчаў, на аднаўленьне і падвышэньне іх урадлівасьці, упарадкаваньне дарог і інш.;

— не дапусьціць неабгрунтавана шырокага асушэньня земляў на Віцебшчыне, дамагацца рацыянальнага гаспадарчага разьвіцьця гэтага краю, разьвіваць яго таксама як куротную зону Рэспублікі зь сеткай санаторных установаў і турыстычных базаў;

— распрацаваць правілы захаваньня і рэканструкцыі сельскіх ляндшафтаў, далучыўшы да гэтае працы прадстаўнікоў біялягічных геоляга-геаграфічных і грамадзкіх навукаў. Практыка «спрашчэньня», а фактычна зьнішчэньня сельскіх ляндшафтаў дзеля часовай эканамічнай карысьці засьветчыла сваю неабгрунтаванасьць і шкоднасьць;

— наладзіць дзейсную сыстэму абавязковай і ўсебаковай прыродаахоўнай адукацыі на ўсіх ступенях навучаньня, фармуючы экалягічную самасьвядомасьць, адказнасьць перад нашчадкамі за стан прыроднага асяродзьдзя.

3. БНФ лічыць недапушчальнай цяперашнюю канцэнтрацыю ў Рэспубліцы хэмічных і іншых экалягічна небясьпечных вытворчасьцяў. Яна прывяла да ўтварэньня згубных для чалавека і ўсяго жывога зонаў па ўсёй тэрыторыі Беларусі (Салігорск, Наваполацак, Гродна, Магілеў, Мазыр, Менск і інш.). БНФ — за абвяшчэньне гэтых раёнаў зонамі экалягічнай небясьпекі і кардынальнае аздараўленьне асяродзьдзя ў іх. БНФ патрабуе закрыць наяўныя (і не будаваць на Беларусі новых) экалягічна агрэсыўныя прадпрыемствы і электрастанцыі, у тым ліку надзвычай шкодныя для здароўя чалавека і асяродзьдзя біяхэмічныя заводы па вытворчасьці БВК (бялкова-вітамінных канцэнтратаў) і кармавых антыбіётыкаў. Ад выкарыстаньня гэтых канцэнтратаў ужо адмовіліся ў большасьці краінаў сьвету, бо яны адмоўна ўплываюць на генафонд жывёлы. БНФ дамагаецца закрыцьця Наваполацкага заводу БВК, спыненьня будаўніцтва Ськідзельскага і Драгічынскага біяхэмічных заводаў, іх перапрафіляваньня.

4. Неабходна цалкам выключыць магчымасьць шкодных выкідаў у паветра, ваду і зямлю з усіх прамысловых, сельскагаспадарчых і іншых аб'ектаў. Новыя прадпрыемствы трэба ўводзіць у дзеяньне толькі пры наяўнасьці замкнутых цыкляў водакарыстаньня і надзейных паветраных фільтраў. Калі экалягічную чысьціню гарантаваць немагчыма, аб'екты трэба перапрафілёўваць.

5. Для ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС неабходна:

— рассакрэціць і даць аб'ектыўную інфармацыю пра радыяцыйную абстаноўку ў гэтай зоне і ў цэлым па Рэспубліцы, пастаянна публікаваць у друку аб'ектыўныя карты ўзроўняў радыяктыўнай заражанасьці тэрыторыі Беларусі. Тэрмінова скласьці і апублікаваць грунтоўныя працы, як берагчыся ад радыяцыі, харчавацца, жыць і працаваць на радыяцыйна забруджанай тэрыторыі;

— абвясьціць зонай экалягічнага бедства ўсе тэрыторыі Беларусі, дзе пасьля Чарнобыля радыяцыйны фон павялічыўся ў шмат разоў. Зьвярнуцца да Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя, да іншых міжнародных арганізацыяў з заклікам аб дапамозе;

— увесьці ў шырокае карыстаньне сродкі індывідуальнага радыяцыйнага кантролю асяродзьдзя і

*(Працяг на 8-й б.)*

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*(Заканчэньне зь 7-й б.)*

прадуктаў харчаваньня, наладзіць свабодны продаж якасных дазымэтраў усім грамадзянам і бясплатнае іх разьмеркаваньне ў радыяцыйна небясьпечных раёнах; разьмясьціць у гэтых раёнах неабходную колькасьць лічыльнікаў іянізацыі для ўліку ўнутранага абпраменьваньня, якое чалавек атрымлівае з вадой, паветрам і прадуктамі харчаваньня і якое цяпер фактычна ня ўлічваецца;

— кантраляваць узровень забруджанасьці асяродзьдзя доўгатрывалымі радыянуклідамі, забясьпечыць радыямэтрычную службу адпаведнай высокаадчувальнай апаратурай, распачаць тэрміновую прафіляктыку людзей і жывёлы супраць узьдзеяньня доўгатрывалых радыянуклідаў;

— рашуча асудзіць і не дапускац, надалей антычалавечую практыку адміністрацыйнага і эканамічнага прынушэньня людзей жыць у раёнах з падвышанай радыяцыйнай небясьпекай; асабліва недапушчальнае пражываньне там дзяцей;

— распрацаваць і апублікаваць праграму пасьлядоўнай і эфэктыўнай дэзактывацыі радыяцыйна забруджаных раёнаў Рэспублікі, устанавіць грамадзкі кантроль за ходам выкананьня праграмы;

— вылучыць неабходныя дадатковыя сродкі зь дзяржбюджэту СССР на ліквідацыю вынікаў аварыі на Беларусі, на экалягічнае і сацыяльнае адраджэньне пацярпелых раёнаў;

— забарніць вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі ў радыяцыйна забруджаных зонах;

— прыцягнуць да суровай крымінальнай адказнасьці асобаў, вінаватых у злачынствах перад народам; ва ўтойваньні сапраўднай небясьпекі вынікаў чарнобыльскай аварыі на Беларусі, у дэзынфармацыі і дэзарыентацыі насельніцтва, у няпрыняцьці неабходных захадаў для радыяцыйнай аховы людзей і асяродзьдзя, у грубых парушэньнях радыяцыйнай, экалягічнай дысцыпліны;

— увесьці на ўсіх тэрыторыях, дзе падвышаны радыяцыйны фон, даплаты і льготы насельніцтву за радыяцыйную шкоднасьць;

— улічваючы экстрэмальны радыяцыйны стан Рэспублікі і тое, што Беларусь на дзясяткі гадоў наперад атрымала небясьпечныя дозы радыяактыўнага заражэньня, а многія яе раёны сталі наогул няпрыдатныя для жыцьця, БНФ патрабуе абвясьціць мараторый (забарону) на будаўніцтва АЭС любога тыпу на тэрыторыі Беларусі і блізка яе межаў на неабмежавана працяглы час. БНФ выступае за закрыцьцё Чарнобыльскай і Смаленскай АЭС, далучаецца да грамадзкага руху Літвы за неадкладную кансэрвацыю і дэмантаж Ігналінскай АЭС, пабудаванай у непасрэднай блізкасьці да БССР. БНФ — за абвяшчэньне ў пэрспэктыве Беларусі бязьядзернай зонай.

6. Немагчымасьць у бліжэйшае стагодзьдзе цалкам пазбавіцца ад радыяцыйнага забруджаньня патрабуе асаблівай увагі да экалягічных праблемаў Беларусі. Самы разумны крок — адмовіцца ад будаўніцтва тут новых экалягічна агрэсыўных прамысловых і энэргетычных аб'ектаў.

7. Альтэрнатыву будаўніцтва АЭС неабходна шукаць у распрацоўцы энэргазьберагальных тэхналёгіяў, у выкарыстаньні энэргіі вадасховішчаў, ужо пабудаваных на сярэдніх і малых рэках, у будаўніцтве ветраных і сонечных рухавікоў, у адшуканьні прынцыпова новых крыніцаў энэргіі, здольных замяніць небясьпечныя для чалавека (атамныя і інш.), у разьвіцьці эканомікі, адпаведнай энэргетычным, сырвінным і людзкім рэсурсам Рэспублікі.

8. БНФ выступае за стварэньне ў кожным раёне, горадзе, паселішчы Рэспублікі грамадзкіх экалягічных камітэтаў.

9. БНФ выступае за падвышэньне статуту і адміністрацыйна-прававых магчымасьцяў Дзяржкампрыроды БССР, будзе падтрымліваць органы аховы прыроды, дамагацца іх укамплектаваньня кампэтэнтнымі спэцыялістамі. БНФ будзе супрацоўнічаць зь дзяржаўнымі ўстановамі, партыйнымі і гаспадарчымі органамі, навуковымі калектывамі, калі яны будуць праяўляць ініцыятыву ў справе аховы прыроды і эканоміі прыродных рэсурсаў, укараненьняў малаадыходных і безадыходных тэхналёгіяў, перапрафіляваньня або закрыцьця шкодных аб'ектаў.

БНФ падтрымлівае экалягічны рух у суседніх саюзных рэспубліках і краінах, накіраваны на рашэньне буйных экалягічных праблемаў, што закранаюць інтарэсы ўсяго насельніцтва нашага рэгіёну Эўропы.

## АХОВА ЗДАРОЎЯ

БНФ «Адраджэньне» канстатуе, што перад народам Беларусі можа паўстаць рэальная пагроза фізычнай і духовай дэградацыі, калі ня будуць прынятыя рашучыя захады дзеля паляпшэньня здароўя людзей. Прычыны трывожнага стану аховы здароўя ў Рэспубліцы патрэба шукаць у грамадзка-палітычным крызісе, узьніклым на глебе антыдэмакратычных мэтадаў кіраваньня. Гэты крызіс абвастрыў эканамічныя, экалягічныя, сацыяльныя, духовыя праблемы. Людзкое здароўе нішчаць забруджаныя шкоднымі рэчывамі паветра, вада і прадукты, благая структура харчаваньня, яго нізкая якасьць, антыгуманныя адносіны да чалавека як да вiньціка камандава-адміністрацыйнай машыны. Зьнізілася нараджальнасьць. На Беларусі, дзе традыцыйна моцны быў дух цьвярозасьці, распаўсюдзілася п'янства, пашыраецца наркаманія.

Матар'яльна-тэхнічная база ўстановаў аховы здароўя, аснашчанасьць іх мэдыцынскім абсталяваньнем, забясьпечанасьць лекамі не адпавядаюць сучасным патрабаваньням. На многіх прадпрыемствах пры арганізацыі працы парушаюцца санітарна-гігіенічныя нормы, лячэбна-аздараўленчая работа фармальная і недастатковая, не ахоплівае ўсіх працаўнікоў. Санітарна-асьветная прапаганда здаровага ладу жыцьця не дасягае мэты, бо замалы выбар варыянтаў правядзеньня вольнага часу.

Абыякавасьць многіх да свайго здароўя тлумачыцца іхняю сацыяльнай апатыяй, нізкай агульнай культурай, адсутнасьцю матар'яльных стымулаў да захаваньня здароўя.

Існуе супярэчнасьць паміж вызначальнымі прынцыпамі аховы здароўя — яе бясплатнасьцю, агульнадаступнасьцю — і прынцыпам захаваньня справядлівасьці.

БНФ лічыць, што вярнуць грамадзтву фізычнае здароўе можна толькі тады, калі ўсе будуць зацікаўленыя ў здароўі кожнага, калі прадпрыемствы будуць мець дзейсныя эканамічныя і маральныя стымулы да захаваньня здароўя чалавека, калі такія стымулы будзе мець сам чалавек.

Барацьба за здароўе народу — гэта барацьба з адміністрацыйна-бюракратычнай сыстэмай, змаганьне за духовае аздараўленьне грамадзтва, за выкараненьне сацыяльна-эканамічных прычынаў захворваньняў.

1. Ахова здароўя жыхароў Беларусі павінна быць сувэрэннай справай Рэспублікі. Цэнтралізацыя сыстэмы мэдыцынскай дапамогі, жорсткая рэглямэнтацыя арганізацыйных формаў і фінансаваньня аховы здароўя даказалі сваю неэфэктыўнасьць. Вырашаць практычныя задачы аховы здароўя павінны мясцовыя Саветы.

2. Неабходна ўдвая павялічыць долю дзяржаўных выдаткаў на ахову здароўя ў бюджэце Рэспублікі; паменшыць непрадукцыйныя выдаткі на кіраўнічы апарат, што дазволіць паступова выйсьці на ўзровень эканамічна разьвітых краінаў.

3. Грамадзянам павінен быць гарантаваны ўзровень бясплатнай мэдыцынскай абслугі, адпаведны стандартам і рэкамэндацыям Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя. Прынцып сацыяльнай справядлівасьці мае на ўвазе роўныя магчымасьці атрыманьня мэдыцынскай дапамогі для кожнага. Кіраўнікі Рэспублікі, іншыя намэнклятурныя работнікі павінны лячыцца ў тых-жа клініках, дзе і астатнія грамадзяне.

4. Неабходна ўвесьці эканамічныя прынцыпы аплаты дзейнасьці мэдыцынскіх установаў. Аплата канкрэтных відаў іхнае працы павінна ісьці зь дзяржбюджэту, з фондаў сацыяльнага страхаваньня, бюджэтаў прадпрыемстваў, арганізацыяў, установаў. Для гэтага патрэбна вызначыць кошт усіх відаў мэдыцынскай дапамогі і абслугі.

5. Пры Саветах павінны быць створаныя спэцыяльныя страхавальныя ўстановы, якія-б займаліся аплатай лісткоў непрацаздольнасьці. Варта ўкараніць індывідуальнае сацыяльнае страхаваньне ня толькі на няшчасны выпадак (траўма, атручаньне), але й на любое захворваньне.

6. Пры захворваньнях, выкліканых дрэннымі ўмовамі працы ці шкодным асяродзьдзем, лячэньне трэба праводзіць за кошт вінаватых установаў і прадпрыемстваў.

7. Неабходна практыкаваць правядзеньне рэфэрэндумаў сярод насельніцтва Рэспублікі па найважнейшых пытаньнях аховы здароўя. Мэтазгодна пры мясцовых Саветах стварыць выбарныя камісіі для кіраўніцтва аховай здароўя.

8. Неабходна ўвесьці дыфэрэнцыяцыю аплаты працы мэдработнікаў. Пры пераходзе мэдыцынскіх установаў на гаспадарчы разьлік трэба забясьпечыць кожнаму жыхару Рэспублікі права вольнага выбару доктара і клінікі.

9. Насьпела стварэньне сучасных цэнтраў дыягностыкі, лячэньня і рэгабілітацыі ва ўсіх рэгіёнах Рэспублікі.

10. Неадкладна трэба распачаць у школах абавязковае выкладаньне асноваў мэдыцынскай і бытавой прафіляктыкі захворваньняў і траўматызму, фізіялёгіі агульнага і полавага разьвіцьця, асабістай і сацыяльнай гігіены, аказаньне першай мэдыцынскай дапамогі. Выкладаньне даручаць толькі мэдыцынскім работнікам з вышэйшай адукацыяй.

11. БНФ — за стварэньне грамадзкіх фондаў для падтрымкі народных і нетрадыцыйных кірункаў у мэдыцынскай навуцы і практыцы.

12. Асаблівай увагі патрабуе ахова здароўя дзяцей. Цяжарныя жанчыны павінны праходзіць прафіляктычны курс у санаторных умовах. Патрэбная сетка мэдыка-генэтычных кансультацыяў. Неабходна значна павялічыць колькасьць дзіцячых садкоў і школаў санаторнага тыпу.

13. Праца мэдыцынскіх навукова-дасьледчых установаў павінна фінансавацца паводля заказаў практычнай мэдыцыны, фундамэнтальныя дасьледаваньні трэба праводзіць дзяржаўным коштам.

14. БНФ лічыць неабходным тэрміновыя і эфэктыўныя захады прадухіленьня эпідэміі СНІД* у Рэспубліцы:

— шырокае тлумачэньне сьмяротнай небясьпекі СНІД, пастаяннае інфармаваньне пра становішча з гэтай хваробай у БССР;

— абавязковае тэставаньне замежных грамадзянаў, што прыяжджаюць у БССР больш чым на месяц, рашучыя меры дзеля абавязковага тэставаньня на СНІД групаў рызыкі (прастытутак і інш.);

— арганізацыя выпуску аднаразовых шпрыцоў і іншага інстурмэнтарыю для мэдыцынскіх установаў Рэспублікі;

— больш суровыя пакараньні работнікаў аховы здароўя, сфэры абслугі, вінаватых у парушэньні процiэпідэмічнага рэжыму (правілаў дэзынфэкцыі, стэрылізацыі);

— тэрмічнае абеззаражваньне ўсяе донарскае крыві.

15. БНФ лічыць важным сродкам аховы здароўя вяртаньне Рэспублікі да мясцовага часу, адмененага ў 1930 годзе. Мэдыцынскія дадзеныя сьветчаць, што розьніца паміж прынятым цяпер дэкрэтам і геаграфічным (паясным) часам парушае прыродны рытм біялягічных працэсаў у арганізьме чалавека, сутачных зьменаў актыўнасьці, фазаў сну і г.д.

* СНІД — сындром набытага імуна-дэфіцыту, паангельску AIDS.

### Ад выдавецтва «Беларус»

*Матар'ялы да праекту Праграмы БНФ «Адраджэньне» і Статут БНФ па надрукаваньні іх у «Беларусе» будуць выданыя асобнай брашурай для належнага пашырэньня. Самвыдавецтва цяпер у БССР забаронена законам. Матар'ялы да праекту Праграмы патрэбныя для як мага шырэйшага іх абмеркаваньня грамадзтвам.*

*Прысылайце замоўленьні на брашуру. Цана: 1 дал.*



*У акуліста.*
Малюнак А. БРАНЦАВА

Гэты рысунак з часапісу «Вожык» (№ 1, 1989) добра камэнтуе стаўленьне бэсэсэраўскіх уладаў, упаасобку менскае міліцыі, да нефармальнага руху ў рэспубліцы, да беларускага нацыянальнага адраджэньня і наагул да перабудовы, як яе разумеюць больш лібэральныя элемэнты партыі. Акуліст-міліцэйскі начальнік правяряе «зрок» сваіх радавых: найбольшыя ворагі, пэўнаж-ж, гэта «Мартыралог», «Талака», «Тутэйшыя», «Сучасьнік» — арганізацыі, таварыствы, клюбы, сябры якіх намагаюцца ўзьняць грамадзянскую й нацыянальную сьведамасьць жыхарства, мабілізаваць індывідуальную ініцыятыву, узмоцніць пачуцьцё адказнасьці за ход справаў у рэспубліцы. А таго, што напісана ніжэй на дошцы пад названымі арганізацыямі — «п'янюгаў», «зладзеяў», «наркаманаў» — міліцыянер можа й не заўважыць: замалыя літары...